ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 34 (2560)
ПЯТНІЦА
20
жніўня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Фота М. МІНКОВІЧА.

Віктар ПАРХІМОВІЧ

●

Зноў сонца выпраменьвае усмешку,
Шумяць дажджы у верхавінах ліп,
Адпачывае вецер у застрэшку,
Начуюць зоркі з зернем у раллі,
Цвітуць, як мак, світальныя пажары,
Дні прахалоду п'юць з тваіх крыніц,
Удаль імчаць расхрыстаныя хмары
Пад пугамі гарэзніц-бліскавіц.
Дзе б я ні быў: паклічаш—адзавуся,
Прыйду ў твае крынічныя лугі
Падыхаць зноў паветрам Беларусі,
Такім гаючым, светлым, дарагім...

# Міхаіл Аляксандравіч МІНКОВІЧ

## АД ЦК КП БЕЛАРУСІ, ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР, САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР



**Цэнтральны Камітэт КП Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў БССР з глыбокім жалем паведамляюць, што 17 жніўня 1971 года пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр Міхаіл Аляксандравіч МІНКОВІЧ, член ЦК КП Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, міністр культуры БССР.**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КП БЕЛАРУСІ** | **ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР** | **САВЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР**

17 ЖНІЎНЯ 1971 года пасля працяглай і цяжкай хваробы памёр член ЦК КПБ, депутат Вярхоўнага Савета БССР, міністр культуры БССР Міхаіл Аляксандравіч Мінковіч.

М. А. Мінковіч нарадзіўся ў 1914 годзе, у вёсцы Кірэева Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці, у сям'і рабочага-чыгуначніка. Пасля заканчэння ў 1935 годзе Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага М. А. Мінковіч пачаў сваю працоўную дзейнасць выкладчыкам у Мінскім ваенным вучылішчы імя М. І. Калініна. З 1939 года ён працуе ў апараце ЦК ЛКСМБ, а ў 1940 г. выбіраецца сакратаром ЦК ЛКСМ Беларусі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны М. А. Мінковіч, знаходзячыся ў саставе аператыўных груп войск Паўночна-Заходняга і Калінінскага франтоў, прымае актыўны ўдзел у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

З 1944 па 1946 год М. А. Мінковіч працаваў старшынёй Радыёкамітэта пры Савеце Міністраў БССР, а з 1946 па 1953 г.—старшынёй Камітэта культасветустаноў пры Савеце Міністраў БССР, а затым намеснікам міністра культуры рэспублікі.

У 1953 г. М. А. Мінковіч выбіраецца першым сакратаром Бягомльскага райкома КПБ. З 1956 года ён працуе намеснікам міністра, а з 1964 года—міністрам культуры БССР.

Працуючы на гэтай пасадзе, М. А. Мінковіч унёс значны ўклад у развіццё культуры і мастацтва Беларусі, праявіў сябе як здольны арганізатар, прынцыповы і чулы кіраўнік, патрабавальны да сябе і таварышаў па рабоце. Актыўнай і плённай была яго грамадска-палітычная дзейнасць. Ён неаднаразова выбіраўся членам Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі, з'яўляўся старшынёй Камісіі БССР па справах ЮНЕСКО. Дзе б ні працаваў М. А. Мінковіч, яго заўсёды вызначалі вялікая працавітасць і высокая партыйная сталасць.

За заслугі перад Радзімай М. А. Мінковіч узнагароджаны двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі.

Светлая памяць пра Міхаіла Аляксандравіча Мінковіча назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, А. Н. Аксёнаў, Л. Г. Кляцкоў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, А. А. Смірноў, Я. П. Нікулкін, М. І. Лагір, У. І. Падрэз, І. М. Траццяк, В. Ф. Шаура, І. Ф. Клімаў, К. А. Фурцава, Н. Л. Сняжкова, Р. І. Уладыкін, К. В. Варанкоў, В. Ф. Кухарскі, Н. І. Мохаў, В. І. Папоў, А. Ц. Караткевіч, С. В. Марцэлеў, В. І. Шарапаў, А. В. Гарачкін, П. П. Бяляўскі, Р. В. Канавалаў, С. М. Пуцылеў, Л. П. Александроўская, А. М. Ваніцкі, В. А. Грамыка, У. І. Дзядзюшка, І. І. Жыновіч, А. І. Клімава, У. У. Корш-Саблін, Р. Г. Мачулін, Ю. М. Міхневіч, П. С. Малчанаў, Т. М. Ніжнікава, Я. М. Палосін, Л. Г. Рахленка, Л. І. Ржэцкая, Я. І. Скурко (Максім Танк), З. Ф. Стома, Г. І. Цітовіч, Р. Р. Шырма.**

# У АПОШНІ ШЛЯХ

18 жніўня мінчане праводзілі ў апошні шлях Міхаіла Аляксандравіча Мінковіча. У 10 гадзін раніцы адкрыўся доступ для развітання з нябожчыкам. Труна з яго целам была ўстаноўлена ў Палацы культуры прафсаюзаў.

Пастамент, на якім устаноўлена труна, увесь у вянках. Тут вянкі ад Цэнтральнага Камітэта КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў рэспублікі, міністэрстваў культуры СССР і БССР, ад ЦК ЛКСМБ, ад творчых саюзаў і арганізацый рэспублікі, родных і блізкіх нябожчыка.

Першымі жалобную варту ля труны нясуць члены ўрадавай камісіі па арганізацыі пахавання М. А. Мінковіча. Праз роўныя прамежкі мяняецца ганаровая варта. Яе нясуць члены бюро Мінскага гаркома і райкомаў партыі, члены выканкомаў гарадскога і раённых Саветаў дэпутатаў працоўных гор. Мінска, члены калегіі Міністэрства культуры БССР.

Гучаць жалобныя мелодыі, бясконцы паток людзей, якія прыйшлі аддаць апошнюю пашану нябожчыку.

Ідуць апошнія мінуты развітання. У зале гучыць хор—выконваюцца мелодыі Рахманінава, Шумана. У ганаровую варту ля труны становяцца П. М. Машэраў, А. Н. Аксёнаў, Ц. Я. Кісялёў, Л. Г. Кляцкоў, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, І. Я. Палякоў, Ф. А. Сурганаў, І. М. Траццяк, намеснікі Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, Л. І. Хітрун.

У 13 гадзін 45 мінут спыняецца доступ у Палац культуры прафсаюзаў. Ля труны з целам М. А. Мінковіча застаюцца яго сям'я, родныя і блізкія.

Кіраўнікі Камуністычнай партыі і ўрада рэспублікі выносяць труну на Цэнтральную плошчу, устанаўліваюць яе на пастамент і падымаюцца на трыбуну. На плошчы сабраліся тысячы мінчан.

Па даручэнні Цэнтральнага Камітэта КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР жалобны мітынг адкрывае старшыня ўрадавай камісіі па арганізацыі пахавання М. А. Мінковіча, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Е. Лабанок.

— Дарагія таварышы! Працяглая цяжкая хвароба і няўмольная смерць заўчасна вырвалі з нашых радоў дарагога друга і таварыша — Міхаіла Аляксандравіча Мінковіча, — гаворыць У. Е. Лабанок.

І вось сёння з пачуццём вялікай утраты мы развітваемся з выдатным душэўным чалавекам, верным сынам Камуністычнай партыі, членам Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, міністрам культуры БССР Міхаілам Аляксандравічам Мінковічам.

Усё яго свядомае жыццё было аддадзена беззапаветнаму служэнню справе барацьбы нашай партыі і народа за пабудову камунізма.

Увесь яго жыццёвы шлях — гэта шлях чалавека, які выйшаў з народа і працаваў у імя яго шчасця.

Якія ўчасткі партыйнай і дзяржаўнай работы яму ні даручала б партыя, ён верна і сумленна апраўдваў яе давер'е, аддаваў усе свае сілы, веды і кіпучую энергію на шчасце народа, на карысць сацыялістычнай Радзімы.

У красавіку 1964 года Міхаіл Аляксандравіч Мінковіч вылучаецца на высокую дзяржаўную пасаду міністра культуры БССР.

Валодаючы вялікімі арганізатарскімі здольнасцямі, высокімі якасцямі кіраўніка, Міхаіл Аляксандравіч уклаў велізарную працу ў справу развіцця культуры і мастацтва беларускага народа.

Усе, хто працаваў разам з Міхаілам Аляксандравічам або блізка яго ведаў, з павагай адносіліся да яго, як да чалавека вялікай душэўнай цеплыні і сардэчнасці, высокай партыйнай прынцыповасці, патрабавальнага да сябе, простага і скромнага, чулага і ўважлівага да людзей.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і Савет Міністраў Беларускай ССР разам з вамі, дарагія таварышы, глыбока смуткуюць аб заўчаснай смерці дарагога друга і таварыша Міхаіла Аляксандравіча Мінковіча і выказваюць глыбокае спачуванне сям'і, сваякам і блізкім Міхаіла Аляксандравіча.

Бывай, наш дарагі Міхаіл Аляксандравіч! Мы назаўсёды захаваем твой светлы вобраз...

Слова атрымлівае намеснік міністра культуры БССР Р. Г. Мачулін.

— Тыя, хто працаваў у сістэме культуры разам з Міхаілам Аляксандравічам, ведаюць, колькі працы і энергіі ўкладзена ім у справу развіцця культуры і мастацтва Беларусі. Кожны з нас штодзённа адчуваў прынцыповасць, чуласць і ўважлівасць кіраўніка, яго патрабавальнасць да сябе і да таварышаў па рабоце,—гаворыць у прыватнасці Р. Г. Мачулін.

Мы ніколі не забудзем, колькі сіл і душэўнай энергіі аддаваў Міхаіл Аляксандравіч усяму новаму, што з'яўлялася на ніве культуры — няхай гэта было адкрыццё Дома культуры, бібліятэкі, нараджэнне твора мастацтва або з'яўленне маладых талентаў.

Сёння мы схіляем нізка галовы перад памяццю нашага дарагога сябра і таварыша, смуткуем аб заўчаснай і беззваротнай утраце разам з сябрамі, блізкімі, сваякамі. Бывай, наш дарагі Міхаіл Аляксандравіч. Твой вобраз назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах...

Ад імя работнікаў мастацтваў рэспублікі выступае артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, народная артыстка БССР З. І. Браварская.

— Мы прыйшлі сёння сюды з пачуццём глыбокага смутку, з пачуццём велізарнага болю. Жорсткая смерць забрала ад нас чалавека, усё жыццё якога было накіравана на служэнне Радзіме, партыі, народу, яго мастацтву.

Міхаіл Аляксандравіч пражыў вялікае напружанае і прыгожае жыццё. Прыгожае таму, што справы гэтага жыцця, увасабленне задум яго было плоццю і крывёй яго чалавечай натуры. Улюбёны ў жыццё, — ён гэта жыццё будаваў, узводзіў, усталёўваў. Улюбёны ў наша савецкае, беларускае мастацтва, — ён быў неаддзельнай яго часцінкай.

Зусім нядаўна мы гутарылі з Міхаілам Аляксандравічам (гэта было на з'ездзе пісьменнікаў), і ён, відаць, перасільваючы хваробу і боль, гаварыў аб заўтрашнім дні тэатра, гаварыў светла і перакanana, зацікаўлена, неспакойна і з пачуццём вялікага добразычлівіцы, гаварыў аб рэпертуары, аб гастролях у Маскве, аб тым, што вось тут, на гэтай плошчы, хутка вырасне цудоўны будынак, у якім будзе працаваць акадэмічны Беларускі.

Хіба маглі мы думаць, што больш нам не давядзецца сустрэцца, што больш ніколі мы не зможам памарыць з Міхаілам Аляксандравічам аб нашым заўтра.

Але наша заўтра будзе. Будуць і п'есы беларускія, і гастролі ў Маскве, новы будынак, дзе будзе пульсаваць жыццё, паэзія, музыка, мастацтва, і значыць ва ўсім гэтым будзе біцца сэрца камуніста, грамадзяніна, дзяржаўнага дзеяча Міхаіла Аляксандравіча Мінковіча.

Творчыя работнікі Беларусі схіляюць галовы ў знак смутку і журботы. Але пакуль жывыя справы людзей і калі гэтыя справы знаходзяць свой працяг, калі гэта справы гарачыя, неспакойныя і сумленныя, смерць адступае.

У кожным горадзе Беларусі ёсць часцінка сэрца Міхаіла Аляксандравіча, у кожным творчым калектыве ёсць кроплі яго крыві...

Да мікрафона падыходзіць намеснік міністра культуры СССР Р. І. Уладыкін.

— Міхаіл Аляксандравіч Мінковіч з'яўляўся адным з самых аўтарытэтных дзеячаў шматнацыянальнай савецкай культуры, карыстаўся агульнай павагай і любоўю. Ён прайшоў вялікі і слаўны шлях — партыйнай і камсамольскай работы, кіруючага дзеяча савецкай культуры і мастацтва.

У шматграннай і плённай рабоце Міхаіла Аляксандравіча пастаянна праяўлялася адна з характэрных для яго рысаў — найглыбейшае пачуццё адказнасці за даручаную яму справу. Ён не шкадаваў сябе, аддаючы гэтай справе ўсе свае веды і багацейшы вопыт.

Ужо будучы цяжка хворым, праяўляючы незвычайную чалавечую мужнасць, волю камуніста, Міхаіл Аляксандравіч з выключнай энергіяй працаваў на адказнай пасадзе міністра культуры Беларусі. Тут з асаблівай сілай раскрыліся яго выключнае дараванне, творчы і арганізатарскі талент, праявіліся здзіўляючая працаздольнасць і невычэрпная энергія.

Ад імя Міністэрства культуры СССР, калегіі міністэрства, усіх дзеячаў савецкай сацыялістычнай культуры выказваю наша найглыбейшае спачуванне працоўным, дзеячам культуры Беларусі, сваякам і блізкім Міхаіла Аляксандравіча ў сувязі з гэтай цяжкай утратай...

Другі сакратар Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ А. А. Сакалоўскі гаворыць прамову ад імя моладзі Беларусі.

— Камсамольскія работнікі рэспублікі ведаюць Міхаіла Аляксандравіча як страснага і нястомнага чалавека, па ініцыятыве і пры асабістым удзеле якога быў ажыццёўлены цэлы рад сумесных спраў камсамола і органаў культуры Беларусі.

Сёння смуткуе ўсё маладое пакаленне рэспублікі, смуткуюць усе, хто разам працаваў і ведаў нашага дарагога Міхаіла Аляксандравіча...

Жалобны мітынг аб'яўляецца закрытым. Пахавальная працэсія накіроўваецца на могілкі па Маскоўскай шашы. Мінчане, якія запоўнілі тратуары ўздоўж Ленінскага праспекта, у жалобным маўчанні праводзяць у апошні шлях Міхаіла Аляксандравіча.

Пад гукі жалобнай мелодыі труна з целам М. А. Мінковіча апускаецца ў магілу. Над ёй вырастае ўзгорак з вянкоў і кветак.

**БЕЛТА.**

# ЗАЎСЁДЫ З НАМІ...



**З**АДУМЛІВА шумяць дрэвы... З ціхім шолахам кружацца і апускаюцца долу лісця. Жнівень. Пачатак восені... Такой парой не стала яго, натхнёнага песняра Беларусі, заснавальніка беларускай савецкай прозы Якуба Коласа. І вось сюды, на магілу пісьменніка, прыйшлі 13 жніўня прадстаўнікі грамадскіх арганізацый сталіцы, пісьменнікі, шматлікія чытачы... Прыйшлі, каб ушанаваць памяць выдатнага сына беларускага народа, ускласці вянкі і жывыя кветкі, яшчэ раз засведчыць сваю любоў і ўдзячнасць таму, хто пакінуў нам вялікую літаратурную спадчыну, уславіў Радзіму творамі сусветнага значэння. Колькі напісана Коласам, як паэтам, празаікам, драматургам, публіцыстам, вучоным, педагогам! Якой бязмежнай шчырай любоўю да роднага краю, да свайго народу прасякнуты творы вялікага мастака!

— Пройдуць дзесяцігоддзі, — усхвалявана, пранікнёна гаворыць першы намеснік старшыні праўлення СП БССР Іван Шамякін, — а дарагі вобраз слаўнага сына беларускага народа Якуба Коласа будзе жыць у сэрцах людзей, як і неўміручыя творы, напісаныя ім...

Фота А. КАЛЯДЫ.

*ПІСЬМЕННІК І ЖЫЦЦЁ*



Сяргей ГРАХОЎСКІ

# СПЯКОТНЫ ЖНІВЕНЬ

**А**ЗІМІНА і ярына даспелі адразу. Пабялелі аўсы, сагнуліся вусатыя ячмені, зашамацілі звонкімі бомамі ільны.

Ад спёкі ападае лісце, курчыцца і трашчыць пад нагамі, як перасушаны тытунь. Парудзелі паплавы і лукавіны. Зямля дыхае спёкай і пылам.

Палі сёлета сталі самым гарачым цэхам краіны.

І пацягнула мяне сялянская душа ў жытнёвыя прасторы, дзе пахне хлебам і прывялым палыном, дзе мае землякі збіраюць багаты ўраджай.

Наважыўся злятаць у родны Глуск, а адтуль перабрацца ў суседні, вельмі мне дарагі Кастрычніцкі раён. За маёй памяццю гэта быў адзін вялікі Глускі раён. Цяпер яны не толькі ў розных абласцях, але і ў розных зонах нарыхтоўчых цэн.

Дастоеўся да запаветнага акенца ў агенцтве Аэрафлоту. І раптам расчараванне: у Глуск не лятаюць самалёты. Чаму? Там жа ёсць і аэрадром і добра абсталяваны будынак Аэрафлоту.

— А самалёты не лятаюць,—рэзка адказвае запараная касірка.—Грамадзянін, не затрымлівайце. Наступны.

— Тады дайце да пасёлка Кастрычніцкі.

Пад крылом сінеюць лясы і лясы. Злева па борце відзён густы дым—недзе гарыць лес і тарфянікі. У такую суш адна іскарка можа нарабіць бяды на мільёны. Да чаго ж мы яшчэ бываем непрадбачлівыя і неашчадныя!

Даўно знаёмы пасёлак. Колішнюю Рудабелку не адразу пазнаю з паветра: у цэнтры і па ўскраінах камяніцы і камяніцы, шыферныя дахі, незавершаныя белыя каробкі ў рыштаваннях. Адразу за пасёлкам палі, застаўленыя сціртамі саломы.

Надвячоркам каля магазіна сустракаю даўніх знаёмых, партызанаў грамадзянскай вайны Амяльяна Падуту і Сцяпана Жынко. І адразу пасыпаліся папрокі і прэтэнзіі:

— Як гэта вы дапусцілі, што фільм «Рудабельская рэспубліка» здымаецца недзе на Гродзеншчыне, а не тут, дзе ўсё адбывалася?

— А вы паглядзіце сюды,—паказваю на дахі суседніх дамоў.

— Ну і што?—адразу не разумее Амяльян Андрэевіч.

— Калі вы грамілі акупантаў і белых бандытаў, былі тут камяніцы, шыфер і столькі тэлевізійных антэн? Куды ж іх схаваеш у фільме?

Глядзіць, усміхаецца.

— Я не падумаў. Сапраўды. Жывеш, прывыкаеш, нібыта яно так заўсёды было. А я ўжо сабраўся пісаць скаргу на кіношнікаў і на вас заадно. Выходзіць, ваша праўда. За гэты год раймаг прадаў больш за тысячу тэлевізараў. Прадаўцы зараблялі мо па 300 рублёў на месяц. І цяпер чарга. Абы якіх не бяруць. Давай «Гарызонт», або яшчэ мудрэйшы.

Амаль усе вуліцы пасёлка заасфальтаваны, пастаўлены свяцільнікі дзённага святла, заканчваецца Дом Саветаў, Палац культуры, школа механізацыі сельскай гаспадаркі, толькі што даў першую выпечку новы хлебазавод, па дарозе на Светлагорск вырас жылы мікраараён.

Вось і здымай тут колішнюю замшэлую, саламяную Рудабелку!

Расказваю старым партызанам, што кінагрупа аб'ехала ледзь не ўсю рэспубліку, пакуль знайшла вёску, якая хоць бы збольшага нагадвала тую колішнюю Рудабелку.

— І ў нас у раёне такой ужо не знойдзеш,—згаджаецца Сцяпан Жынко.

Па вуліцы ідзе група моладзі. Дзяўчаты і хлопцы ў спяцоўках і кедах. Зарослыя, даўно няголеныя юнакі, да чарнаты завэнджаныя на сонцы і вятрах паблісквають белазубымі ўсмешкамі. Больш за 800 студэнтаў з інстытутаў Мінска, Гомеля і Брэста прыехала сюды адбудоўваць славуты палескі раён. Студэнцкія будаўнічыя атрады працуюць у райцэнтры, у кожным калгасе і саўгасе раёна.

Перад пачаткам працоўнага семестра мне даводзілася выступаць у педінстытуце імя Горкага, расказваць пра гісторыю Рудабелкі, агітаваць студэнтаў добра папрацаваць. А цяпер захацелася сустрэцца з імі. Хоць і трохі трывожна: можа і папракнуць, што не ўсё так, як абяцалі. Што ж прыйдзецца сцярпець.

— Ну, як тут робяць студэнты?—пытаюся ў старых знаёмых.

— Адным словам, малайцы,—гаворыць Амяльян Андрэевіч,—да змяркання не згоніш з рыштаванняў. Каб хоць з паўгода так парабілі, дык мы уга-а колькі б набудавалі.

Усю ноч каля гасцініцы гулі машыны. Збожжа возяць здаваць за свет, аж у Калінкавічы. Колькі гэта займае часу, людзей, машын, колькі спальваюць бензіну! А побач чыгуначная станцыя Рабкор. Куды б лепш было на месцы зрабіць прыёмны пункт.

Якая б была эканомія! Можа памыляюся, можа ўсё складаней, чым здаецца з першага погляду.

Хацелася пра ўсё пагаварыць з кіраўнікамі раёна. Увесь вечар званіў ім. Да адзінаццаці ночы нікога яшчэ не было дома. Пазней званіць ужо нямёмка. Раніцаю сустрэўся з старшынёй райвыканкома Анатолем Сяргеевічам Новікавым. Гляджу: нешта змянілася ў твары і ў постаці заўсёды ўраўнаважанага і далікатнага даўняга і добрага прыяцеля. Неяк выпетраў і завастрыўся, стаў няўрымслівы і парывісты. А выглядае, не раўнуючы, студэнт з будаўнічага атрада: тэніска, пацёртыя штонікі, выгаралая чупрына, толькі светлыя маршчынкі каля вачэй выдаюць узрост і пастаянную заклапочанасць старшыні.

— Як і што, цяпер высвятляць не будзем. У нас наперадзе цэлы дзень, і мабыць не адзін. Яшчэ нагаворымся,—і Анатоль Сяргеевіч прапануе паездзіць з ім па раёне.—Ёсць шмат пытанняў, якія трэба вырашаць на месцы,—гаворыць ён. «Пытанне», «пытанні»—яго любімыя слоўцы. Можа не так любімыя, як неабходныя. У старшыні суцэльныя пытанні: жніво—пытанне нумар адзін, будаўніцтва... таксама нумар адзін, цэмент, цэгла, быт будаўнічых атрадаў, жалезабетон, закладка сенажу—усё пытанні над пытаннямі.

А ў прыёмнай задоўга да афіцыйнага пачатку работы яго ўжо чакаюць наведвальнікі. Пажылай партызанцы трэба шыфер на хату, нейчых дзяцей уладкаваць у школу-інтэрнат, ветэрана вайны забяспечыць дровамі; прагледзець дакументацыю на будаўніцтва маслазавода. Прыносяць зводкі аб ходзе жніва і здачы збожжа. Усмешка асвятляе твар: працуе 133 камбайны, сотні машын адвозяць зерне дзяржаве, ячмень дае па 30 цэнтнераў з гектара, 20 цэнтнераў намалочваюць жыта «Белта».

І раптам засмучэнне: рэзка ўпалі надоі малака.

— Даём каровам падвойную норму канцэнтратаў, а малака няма. Спякота, здрані, пашы павыгаралі. Вось і два бакі аднаго медаля — для ўборкі самая пагода, для бульбы і малака пагібель. Пойдуць дажджы, навярстаем у жывёлагадоўлі, а для жніва няхай яшчэ трохі пасмаліць. Шкада толькі бульбы. Ранняя ўвабралася ў сілу і яшчэ трымаецца, а позняя на ўзгорках пячэцца.

— Зводкі, зводкамі,—гаворыць Анатоль Сяргеевіч,—а што робіцца ў полі і на таках, трэба глядзець кожны дзень.

Заходзім да першага сакратара райкома Уладзіміра Іванавіча Драздова. Ён гаворыць па тэлефоне з абкомам, дакладвае, як ідзе ўборка і будаўніцтва, просіць матэрыялаў і дадатковага фінансавання новых аб'ектаў. Дамаўляемся, хто куды паедзе і дзе сустрэнемся ўвечары.

Райвыканкомаўскі газік напалены, як скляпенне печы, да бляхі не дакрануцца. Анатоль Сяргеевіч садзіцца за руль.

Заязджаем на ток у вёсцы Лаўстыкі. Пад павеццю ссыпаны горы збожжа. Транспарцёры цягнуць яго ў вялізныя барабаны агрэгатаў вітаміннай мукі (так званыя АВМ). Відно, як з фарсунак вырываецца белае полымя—дасушвае да патрэбнай кандыцыі кожнае зярнятка. Ад сонца і агрэгатаў нясцерпная гарачыня.

Хоць і выраслі мы некалі на зямлі, але сённяшнюю вёску, яе жыццё, яе клопаты, яе тэхнічную ўзброенасць, эканамічныя і сацыялагічныя праблемы ўяўляем вельмі прыблізна і цьмяна. Каб пісаць пра сельскіх працаўнікоў, не хопіць ніякай камандзіроўкі. Трэба пажыць год-два, каб зразумець сутнасць эканомікі, перспектывы і канфлікты, якія ставіць жыццё. Я ўжо не кажу пра псіхалогію і інтарэсы людзей сяла—аграномаў і заатэхнікаў, механізатараў і інжынераў, пра шматлікую інтэлігенцыю, якая стала асновай сучаснай сельскай гаспадаркі. Шчыра прызнаюся, мне ў гэтай паездцы было цяжка ў многім разабрацца і дайсці да сутнасці ўсяго, што адбываецца на сяле.

Затаранае збожжа грузяць у машыны работнікі раённых установаў. З вясёлымі жарцікамі і прыпеўкамі цягае кулі на змакрэлай спіне намеснік старшыні райвыканкома Васіль Анісімавіч Зыбеў, працуюць інструктары райкома, загадчыкі аддзелаў РВК. Кожны разумее—паперкі могуць пачакаць, а ўраджай трэба давесці да ладу сёння, у гэтую хвіліну.

З Анатолем Сяргеевічам абыходзім даўжэзныя механізаваныя фермы. У свінарніках горача, вентыляцыя не паспявае пераганяць перагрэтае паветра.

— Поліэтыленавая плёнка ў вас ёсць?—пытаецца старшыня райвы-

(Заканчэнне на 8 і 9 стар.).







**Вокладкі новых кніг, якія выйшлі ў выдавецтве «Беларусь»: «Загадка беларускай «Энеіды» Г. Кісялёва (мастак П. Драчоў), «Жаданне» Э. Агняцвет (мастак С. Кавалёў), «Цёплая зямля» В. Хомчанкі (мастак Л. Бетанаў).**

# НЯЛЁГКІ ШЛЯХ

За апошні час навука пра беларускую літаратуру XIX ст. зрабіла значны крок наперад: пашырыліся гарызонты яе даследавання, паглыбела аналітычная думка, у полі зроку даследчыкаў аказваецца ўсё больш гісторыка-літаратурных з'яў і фактаў.

Гэта так. Аднак самі тэксты літаратуры XIX стагоддзя ў значнай частцы застаюцца ўсё яшчэ маладаступнымі для шырокага кола чытачоў. Многія з іх амаль невядомыя, раскіданы яны па розных даўнішніх выданнях. Складальнікі хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя» паставілі мэтай «у пэўнай ступені задаволіць узросшы попыт чытача на эстэтычныя каштоўнасці мінулага».

...Згадваецца такі факт: у сувязі з пяцідзесятай гадавінай У. Сыракомлі «Наша ніва» ў верасні 1912 года спрабавала сабраць неапублікаваную спадчыну паэта, яго вершы на беларускай мове. Не ўдалося. Тое ж атрымалася і са спадчынай В. Каратынскага.

Беларуская літаратура прайшла ў XIX стагоддзі нялёгкую дарогу. Сацыяльны і нацыянальны ўціск, забарона беларускага друкаванага слова — усё гэта стрымлівала рост і дужанне нашай літаратуры, развіццё мастацкай самасвядомасці народа. Літаратурны працэс адбываўся ў такіх формах, што і сёння яшчэ застаюцца ў небыцці многія істотныя літаратурныя з'явы, і сёння даводзіцца (нярэдка без поспеху) расшукваць многія творы, узнаўляць прозвішчы аўтараў, расшыфроўваць псеўданімы, збіраць факты з жыцця аўтараў і г. д. Клопат «Нашай нівы» пра літаратурную спадчыну ўсё ж даў свае вынікі: шмат што ўдалося тады адшукаць і апублікаваць. Але многія творы або загінулі, або засталіся ў невядомасці ў кнігасховішчах ці архівах. А некаторыя друкаваліся на старонках тых ці іншых выданняў і... забываліся.

І вось тры даследчыкі — Сцяпан Александровіч, Алег Лойка і Вячаслаў Рагойша — паставілі перад сабой важную і нялёгкую задачу сабраць у адной кнізе ўсё тое, што ўжо было апублікавана ў розных зборніках (перш за ўсё ў хрэстаматыях, выдадзеных у 1922, 1940, 1950 і 1956 гг.) і перыядычных выданнях, і дапоўніць творамі, адшуканымі ў архівах. У выніку з'явілася хрэстаматыя «Беларуская літаратура XIX стагоддзя».

Паколькі мы ўжо ўспомнілі пра творчасць У. Сыракомлі і В. Каратынскага, то варта зазначыць, што ў хрэстаматыі змешчаны ўсе вядомыя беларускія творы гэтых паэтаў. Але верш У. Сыракомлі «Добрыя весці» надрукаваны з вялікімі купюрамі. Між тым у рукапісным аддзеле Бібліятэкі Варшавы захоўваецца рукапіс гэтага верша (без загалоўка, а ў канцы, у пераліку твораў, ён мае назву «Весці 1848 г.»). Гэты рукапіс дае магчымасць зрабіць істотныя ўдакладненні ў тэксце твора. Як відаць з поўнага тэксту, верш уяўляе сабой не **маналог** з невыразнай кампазіцыяй (такім выглядае верш у друкаваных варыянтах), а **дыялог** паміж людзьмі і ветрам пра весці аб змаганні за свабоду. Інакш чытаецца і апошні радок: «З хаткі астаткі даваць на пабор...» (у «Хрэстаматыі»: «З хаткі астаткі браць на пабор!»). У названым рукапісе сустракаюцца і іншыя адрозненні.

Гэты верш У. Сыракомлі, у цэлым не пазбаўлены салідарысцкіх ілюзій, якія траплялі ў творы польскай рамантычнай паэзіі таго часу, па ідэйным змесце ў пэўным сэнсе быў прадвеснікам ідэй, выказваемых пазней на старонках «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага. (Паэт, як вядома, быў і асабіста знаёмы з К. Каліноўскім.) Таму гэты твор заслугоўваў паўнейшай, больш дакладнай публікацыі.

Пры падрыхтоўцы кнігі да друку складальнікам прыйшлося вырашыць у першую чаргу пытанне аб размяшчэнні твораў, аб кампазіцыі, якая ў пэўнай меры адлюстроўвала б канцэпцыю літаратурнага развіцця ў XIX ст. Задача размеркаваць паасобныя творы, якія часцей за ўсё ўзніклі адзін незалежна ад другога, часта друкаваліся праз шмат гадоў пасля з'яўлення або траплялі ў такія архівы і кнігасховішчы, дзе непатрывожаныя ляжалі спакойна многія дзесяцігоддзі, — не з'яўляецца простай. Кампазіцыя хрэстаматыі — гэта перш за ўсё спроба ўвесь літаратурны матэрыял згрупаваць паводле тых ці іншых прынцыпаў, якія вызначаюць характар гісторыка-літаратурнага развіцця. Правільнае размеркаванне матэрыялу садзейнічае яго больш глыбокаму асэнсаванню. І трэба сказаць, што ў асноўным аўтары выканалі гэтую задачу паспяхова, хаця ў паасобных выпадках, бадай, можна было знайсці і некалькі іншае, больш правільнае рашэнне.

Кніга складаецца з трох асноўных раздзелаў: «Ананімная літаратура», «Літаратура дарэформеннага часу» і «Літаратура парэформеннага саракагоддзя». Апошні раздзел распадаецца на некалькі частак: «Рэвалюцыйная публіцыстыка», «Мастацкая літаратура», «Пераклады і наследаванні». І ў кожным раздзеле ёсць творы новыя або амаль зусім невядомыя. Увядзенне іх у шырокі ўжытак значна ўзбагаціць кожнага чытача ведамі аб літаратурным жыцці ў Беларусі. Гэта датычыцца такіх вершаў, як «Пад дуду», «Ноччу ў сяле», «Хто я?», «Палякам у дзень 3-га мая», «Я клічу Вас...», твораў Яна Чачота (праўда, верш «На прыезд Адама Міцкевіча», мала вядомы нашым чытачам, без патрэбы даецца з купюрамі), рэвалюцыйнай публіцыстыкі («Пісьмо пра Беларусь» Данілы Баравіка, «Пасланне да землякоў-беларусаў» Шчырага Беларуса, «Гоман» і шмат іншых матэрыялаў). Але тут жа варта заўважыць, што некаторыя творы з раздзела «Ананімная літаратура» — скажам, тыя ж вершы «Ой, у полі вецер вые», «Хто я?», «Палякам у дзень 3-га мая», «Я клічу Вас...» — больш мэтазгодна было б аднесці да «Літаратуры парэформеннага саракагоддзя». Напісаны яны ў канцы XIX ст., а па сваёй тэматыцы і ідэйнай накіраванасці прымыкаюць за публіцыстычных твораў 80—90-х гадоў, змешчаных у апошняй частцы хрэстаматыі. Так, гэтыя вершы з'яўляюцца ананімнымі, аўтараў іх мы не ведаем, але ж мы нічога не ведаем і пра такіх пісьменнікаў, як Ігнат Мігановіч, Іяхім Тамашэвіч ці нават Фелікс Тапчэўскі, вершы якіх надрукаваны ў наступных раздзелах.

Добра, што аўтары пераклалі на беларускую мову і надрукавалі больш ці менш вядомыя, але практычна недаступныя шырокаму чытачу выказванні аб Беларусі і беларускай літаратуры Рамуальда Падбярэзскага, Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Данілы Баравіка, Шчырага Беларуса і інш. Гэта паўней, выразней акрэслівае той фон, на якім развівалася наша літаратура, паказвае пашырэнне ідэй, што сведчылі аб прабуджэнні і росце нацыянальнай самасвядомасці ў беларусаў. Шкада толькі, што ў «Хрэстаматыі» мы не знаходзім выдатнае выказванне М. А. Дабралюбава пра беларускі народ.

Хрэстаматыя дае жывое ўяўленне аб тым, як наша літаратура ў XIX стагоддзі, пускаючы першыя парасткі ў выглядзе ананімных гутарак і напаўфальклорных вершаў, ад паэтычнай апрацоўкі фальклорных матываў, вершаваных аповесцей В. Дуніна-Марцінкевіча, створаных на аснове вусна-паэтычных і літаратурных традыцый, прыйшла да пафаснай, рэалістычнай, непрымірымай да сацыяльнай крыўды паэзіі канца стагоддзя, перш за ўсё — творчасці Францішка Багушэвіча.

Матэрыялы хрэстаматыі даюць падставу зрабіць новыя вывады адносна перыядызацыі гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. Самі аўтары прытрымліваюцца традыцыйнай, усталяванай схемы і лічаць мяжой паміж двума перыядамі рэформу 1861 г. Але па сутнасці аж

Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя. Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1971.

# ПАПУЛЯРЫЗАЦЫЯ І АНАЛІЗ

Сталы майстар, своеасаблівы мастак-шукальнік — такі кампазітар Д. Камінскі. Яго творчы партрэт аналітычна і жыва намаляваў музыказнаўца Л. Ауэрбах, які ўпершыню пазнаёміў чытача з багатым на творчы плён жыццём кампазітара. Важныя і цікавыя тут звесткі пра бацьку — таленавітага скрыпача (дарэчы ён быў знаёмы П. І. Чайкоўскаму), пра станаўленне юнага музыканта, які па-сапраўднаму пачаў займацца кампазіцыяй у 30 год, а раней падзяляў цікавасць да музыкі з захапленнем... чыгуначным транспартам. Яркія старонкі аб цяжкіх гадах вайны (кампазітар тады быў музычным кіраўніком мастацкага ансамбля 40-й арміі). Зразумела, самыя падрабязныя звесткі аб шматграннай дзейнасці Д. Камінскага ў Беларусі і аналіз яе.

Цэнтральнае месца ў кніжцы Л. Ауэрбаха займае разгляд найбольш значных твораў Д. Камінскага. Пры чытанні старонак адчуваецца імкненне аўтара быць «аднолькава дакладным для знаўцаў і цікавым публіцы», як некалі гаварыў М. Глінка. І часта аўтар умела спалучае размову пра тэхналогію творчасці кампазітара з выяўленнем ідэйнага, вобразнага, эмацыянальнага зместу яго музыкі. У раздзелах «Музыка для цымбал», «Творы канцэртнага жанру», «Камерна-інструментальныя жанры» і «Музыка для дзяцей і юнацтва» пераканаўча прааналізаваны многія старонкі літаратуры, створанай Д. Камінскім. Напісана гэта часцей за ўсё даходліва, грунтоўна, доказна, а стылявая яснасць робіць зразумелымі музыказнаўчыя высновы. Так, расказваючы пра музыку для беларускага аркестра народных інструментаў — «аркестра Жыновіча», Л. Ауэрбах дарэчы выкарыстоўвае форму своеасаблівай справаздачы аб канцэрце ў двух аддзяленнях, форму, якая надае ўсёй размове сапраўды папулярны характар.

Раздзел «Рысы стылю» каштоўны ў даследчых адносінах. Тут Л. Ауэрбах дзеліцца сваімі назіраннямі і характарызуе творчы почырк кампазітара, адзначае жыццярадасны тонус яго твораў, цесную сувязь з народнай музыкай. Сапраўды, Д. Камінскі мог бы з поўным правам сказаць пра сябе, што ён прыслухоўваўся да галасоў народнай творчасці і прыроды і браў напетае і падказанае імі ў аснову сваёй творчасці. Гэта адчуваеш, слухаючы яго творы і чытаючы кніжку пра іх.

На нашу думку, Л. Ауэрбах часам дае і вельмі эмпірычныя, мала абгрунтаваныя ацэнкі некаторым эксперыментальным творчым пошукам кампазітара. Напрыклад, ёсць у Д. Камінскага транскрыпцыя сюіты з балета І. Стравінскага «Вясна свяшчэнная». Зварот да гэтага твора аўтар брашуры тлумачыць тым, што Стравінскі быў для маладога кампазітара... кумірам («адным з куміраў»). Мабыць, такое тлумачэнне нельга лічыць дастатковым у аналізе дзейнасці мастака. І далейшыя разважанні пра названую транскрыпцыю таксама носяць даволі расплывісты, можна сказаць, прыблізны характар. Бо, сцвярджаючы, што Д. Камінскі «дакладна ідзе за адпаведнымі старонкамі партытуры балета», што ў яго «няма ўпрыгожваючых пасажаў, вольных кадэнцый, змены гармоніі і г. д.», аўтар не паглыбляецца ў аналіз. Мабыць, трэба было або сказаць пра тое, што такі падыход увогуле правільны і адзіна магчымы, або, наадварот, што ён сведчыць пра скаванасць Д. Камінскага ў дадзеным выпадку, бо перад ім быў «кумір».

Возьмем і такі аспект размовы: аўтар кніжкі сцвярджае, што Д. Камінскі, «увасабляючы ў сваіх творах характэрныя рысы беларускай народнай музыкі, не прайшоў міма вопыту І. Стравінскага». У якасці прыкладу называецца Канцэртная фантазія на беларускую тэму, у якой «сёе-тое пераклікаецца з музыкай балета «Пятрушка». Зразумела, гэта сёе-тое, па-першае, нельга ўспрымаць як дастаткова ясны тэрмін, а па-другое, такое сцвярджэнне спрэчнае і патрабуе доказаў. Іх якраз і нестае гэтай частцы брашуры.

Затое сапраўды абгрунтавана і ў большасці выпадкаў дакладна аналізуе Л. Ауэрбах, як мы адзначылі вышэй, творы кампазітара канцэртнага і камерна-інструментальнага жан-

Л. Ауэрбах. «Дзмітрый Камінскі». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.

# МУЗЕЙ— МУЗЕЮ

І. ЗАГРЫШАЎ,
намеснік дырэктара Дзяржаўнага музея БССР

ЯШЧЭ ЗУСІМ нядаўна, калі гутарка заходзіла аб музеях, можна было пачуць скептычнае пытанне: «А што яны там асаблівага робяць?» Ік лічылі за нейкія пабочныя ўстановы, асабліва музеі раённага звяна, і дзейнасць гэтых музеяў трымалася больш на энтузіязме аматараў, чым на ўвазе афіцыйных органаў. Сёння пытанне — «А што ён робіць, музей?» — прагучыць як недарэчнасць і, нават, неадукаванасць. У музей звяртаюцца за дапамогай савецкія, партыйныя і камсамольскія органы, на музей абапіраюцца ў ідэалагічнай і культурна-масавай, выхаваўчай рабоце. Рэдка якія мерапрыемствы праходзяць без удзелу музея.

Паваротным момантам у рабоце музеяў сталі пастанова ЦК КПСС 1964 года «Аб павышэнні ролі музеяў у камуністычным выхаванні працоўных» і пастанова Савета Міністраў СССР 1965 года «Аб музейным фондзе СССР», якія развівалі ленінскі прынцып музейнага будаўніцтва як арганічнай часткі палітыка-выхаваўчай работы партыі. Вялікую ролю ў жыцці беларускіх музеяў адыграла пастанова ЦК КПБ 1966 года «Аб далейшай рабоце па ўвекавечанні гераічных подзвігаў савецкіх людзей у перыяд Вялікай Айчыннай вайны».

Увага, якую надаюць партыйныя і савецкія органы рабоце музеяў, прывяла да шырокага росту ініцыятывы, стварэння шырокай сеткі новых музеяў — музеяў баявой і працоўнай славы.

Зараз у рэспубліцы налічваецца 47 музеяў сістэмы Міністэрства культуры БССР. Амаль усе яны маюць здавальняючую матэрыяльную базу, экспазіцыі іх аформлены згодна метадычных і эстэтычных патрабаванняў. Крытэрыем ацэнкі работы сённяшніх музеяў з'яўляецца наведвальнік. Зараз каля 3 млн. чалавек штогод наведвае музеі Беларусі. Гэта ў 2,5 раза больш, чым у 1963 годзе. Па наведванні музеяў Беларуская ССР стаіць на трэцім месцы ў краіне.

Усё гэта радуе музейных работнікаў. Аднак павышэнне ўвагі грамадскасці да музеяў накладвае на іх і асобую адказнасць. Цяпер кожны з іх не можа працаваць сам па сабе, без узгаднення з работай іншых музеяў, без абмену вопытам і ўзаемнага абагачэння.

МЕТАДЫЧНЫМ цэнтрам музейнай работы рэспублікі выступае Дзяржаўны музей Беларускай ССР — буйнейшае сховішча помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Сваю кіруючую ролю Дзяржаўны музей ажыццяўляе праз метадычны аддзел і навукова-экспазіцыйныя аддзелы.

Калі заходзіць гутарка аб кіраўніцтве раённымі і народнымі музеямі з боку Дзяржаўнага музея БССР, трэба мець на ўвазе, што гэта кіраўніцтва не носіць ніякага юрыдычнага характару, што нашы ўказанні маюць толькі рэкамендацыйны характар, і справа саміх музеяў прымаць іх або не. Тым не менш да кіраўніцтва работай сваіх «меншых братоў» вымушае само жыццё, паўсядзённая практыка, і гэтая ж практыка паказвае, што толькі такім чынам можна дамагчыся належнага поспеху.

Па-першае, мы імкнемся ўзброіць работнікаў раённых і народных музеяў асновамі методыкі музейнай работы. Ва ўсе музеі рэспублікі мы рассылаем метадычныя дапаможнікі і пісьмы па ўсіх раздзелах дзейнасці музея. Гэта і бібліяграфія метадычнай літаратуры, і вопыт арганізацыі работы заводскіх і сельскіх музеяў, адлюстравання ў экспазіцыі дасягненняў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, навукова-атэістычнай прапаганды ў гістарычных аддзелах музеяў і шмат чаго іншага. Часам у адным музеі паспяхова ідзе масавая работа, у другім — збіральніцкая, у трэцім — фондавая. Зрабіць лепшы вопыт здабыткам усіх музеяў — адна з важных задач метадычнага цэнтра.

У Дзяржаўным музеі БССР, як ні ў якім іншым музеі краіны, накоплен багацейшы вопыт збіральніцкай работы. За нейкія 10—12 год у музеі было сабрана больш за 130 тысяч экспанатаў асноўнага фонду і 50 тысяч навукова-дапаможнага. Вопыт збіральніцкай работы музея мы выклалі ў метадычным пісьме і не аднойчы — у дакладах на семінарах і нарадах музейных работнікаў.

Мы імкнемся пераканаць работнікаў музеяў, што поспех збіральніцтва поўнасцю залежыць ад навукова-даследчай работы. Рыхтуючыся да збору матэрыялаў у камандзіроўцы ці ў экспедыцыі, навуковы супрацоўнік павінен абсалютна ясна сабе ўяўляць, што ён хоча знайсці, дзе прыкладна шукаць экспанаты, як іх здабыць.

Бывае ж так, што непадрыхтаваны як след супрацоўнік прыязджае на буйны завод або будоўлю, з цяжкасцю дабіваецца сустрэч з дырэктарам, у туманных выразах выкладае просьбу: даць матэрыялы аб будаўніцтве, аб ударніках, а далей і сам губляецца. Дырэктар адпраўляе супрацоўніка ў бюро інфармацыі або ў мясцком. Там яму даюць некалькі фотаздымкаў і грамат. І прывозіць чалавек матэрыял, які не мае вялікай гістарычнай каштоўнасці.

А вось прыклад з практыкі работы нашага музея. Для збору матэрыялаў аб будаўніцтве Полацкага нафтаперапрацоўчага завода навуковы супрацоўнік рыхтаваўся месяц. На аснове вывучэння мясцовага і рэспубліканскага перыядычнага друку, дакументаў і справаздач будаўнічых арганізацый была састаўлена канкрэтная і падрабязная праграма збору. Калі такая праграма лягла на стол адказнага работніка будаўніцтва, у адрас пэўных людзей паступілі прамыя ўказанні, што знайсці і перадаць музею. Такім чынам, у фонды музея паступілі першы рэпер, убіты на будаўнічай пляцоўцы, інструменты муляра, які заклаў першую цагліну ў падмурак новабудоўлі, палатка, у якой размяшчаўся камсамольскі штаб, шыльда з гістарычным надпісам «Тут будзе закладзена першая цагліна будучага горада» і шмат іншых.

Розніца ў музейным значэнні сабранага ў першым і другім выпадку відавочная.

Часам супрацоўнікі раённых музеяў любяць шныпарыць па дапаможных фондах іншых музеяў, каб што-небудзь вымантачыць і для свайго—для агульнага фонду. Такім людзям варта сказаць: трэба больш вывучаць свой раён. Вывучаць дэталёва і ўнікліва. Толькі тады гісторыя раёна зазіхаціць жывымі фактамі, а музей будзе аперыраваць канкрэтнымі людзьмі і з'явамі.

Вядома, без узаемнай дапамогі матэрыяламі музеям не абысціся. Большасць раённых і абласных музеяў часта звяртаецца да нас, і мы робім шмат фотаздымкаў і электраграфічных копій дакументаў, заўсёды задавальняем просьбы сваіх малодшых калег. У дні падрыхтоўкі да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, напрыклад, намі былі заказаны ў Маскве літаграфічныя копіі ленінскіх работ і дакументаў. Выкананыя на высокім паліграфічным узроўні, гэтыя дакументы былі разасланы ўсім абласным і раённым музеям. Абагульняючы вопыт работы лепшых музеяў, мы пазнаёмілі праз метадычныя пісьмы ўсе музеі Беларусі з практыкай масавай работы Пінскага краязнаўчага музея, з фондавай работай Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея і г. д.

Укараненне лепшага вопыту фондавай работы ў практыку раённых музеяў — задача вельмі і вельмі актуальная. Справа ў тым, што ў некаторых музеях яшчэ не наладжаны належны ўлік, сістэматызацыя, захоўванне і навуковае апісанне музейных прадметаў. У першую чаргу гэта датычыць нядаўна створаных музеяў у Расонах, Клічаве, Акцябры. А колькі давялося паваяваць з дырэктарам Крычаўскага музея М. Мельнікавым! Ён разгарнуў інтэнсіўную пошукавую работу. Гэта добра, але калі гэты пошук атоесамліваецца з пошукамі чырвоных следапытаў і праводзіцца ва ўрон камплектаванню, уліку, апісанню прадметаў матэрыяльнай культуры, то мы можам прама сказаць, што музей вядзе аднабаковую дзейнасць. Да нядаўняга часу ў музеі наогул не было інвентарных кніг уліку, многія экспанаты, нават унікальныя, дырэктар захоўваў дома.

Прыемна адзначыць, што большасць работнікаў раённых музеяў сама разумее важнасць фондавай работы. Нядаўна многія супрацоўнікі раённых музеяў скончылі вучобу ў інстытуце павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры. Павышаную ўвагу ўдзялілі яны фондавай рабоце — уліку, сістэматызацыі, ахове і навуковаму апісанню музейных прадметаў. Уся гэта вучоба праходзіла на базе і практыцы Дзяржаўнага музея БССР.

Няма ніводнага раённага музея, дзе б ні пабывалі нашы супрацоўнікі, ні далі парады па тых ці іншых пытаннях экспазіцыйнай работы. Такія жывыя кантакты больш карысныя, чым чыста метадычныя ўказанні, бо зыходзяць з канкрэтных умоў кожнага музея. Калі перафразіраваць вядомую прымаўку, то можна сказаць: «Прыгожы музей не вугламі, а экспанатамі». Але сёння такая прымаўка патрабуе і сур'ёзнай папраўкі. Безгустоўна аформленую экспазіцыю, хоць і багатую «пірагамі», наведвальнік зараз не прымае. Не выручаць нават унікальныя экспанаты, бо музей заўсёды ўспрымаецца комплексна. З пункту гледжання эстэтычных запатрабаванняў амаль усе экспазіцыі беларускіх музеяў зараз на належным узроўні. Вялікае значэнне меў праведзены агляд работы музеяў напярэдадні 50-годдзя Савецкай улады, а затым 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.

Чарга за сэнсавым зместам, навуковасцю экспазіцыі. Вялікіх прэтэнзій і тут ужо, здаецца, няма. Кожны тэматыка-экспазіцыйны план новай экспазіцыі або новага музея, як правіла, рэцэнзуецца ў Дзяржаўным музеі. Тэматыка-экспазіцыйныя планы Маладзечанскага, Слуцкага, Мядзельскага, Акцябрскага, Бабруйскага, Крычаўскага, Барысаўскага і шмат якіх іншых музеяў прайшлі праз навукова-экспазіцыйныя аддзелы нашага музея. Дапамога і ўказанні нашых супрацоўнікаў па планах яшчэ ў падрыхтоўчы перыяд дазволілі пазбегнуць многім музеям метадычных, а іншы раз і фактычных памылак. Станоўчым трэба прызнаць і тое, што прымаць новыя экспазіцыі абавязкова едуць супрацоўнікі нашага музея. Не скажу, што гэта—лёгкая місія. З аднаго боку, супрацоўнік павінен быць строга аб'ектыўны, указаць на недахопы экспазіцыі. З другога—па-чалавечы ўлічыць аб'ектыўныя цяжкасці і мясцовыя магчымасці: не заўсёды ж хапае музейных экспанатаў і тэхнічных сродкаў. Але ва ўсіх выпадках нашы заўвагі з'яўляліся праграмай далейшага ўдасканалення экспазіцый і не парушалі добразычлівых кантактаў паміж музеямі.

Мы неаднаразова бывалі ў Віцебскім краязнаўчым музеі ў перыяд перабудовы экспазіцыі. Стварэнне новай экспазіцыі гэтага музея ішла з цяжкасцю, дый зараз, у гатовым выглядзе, мае рад недахопаў. На нашу думку, віцябляне некалькі парушылі баланс суадносін некаторых тэм. У тэме «Вялікая Айчынная вайна» спрабавалі скапіраваць беларускі музей гісторыі Айчыннай вайны. А копія заўсёды горш за арыгінал. У музеі Айчыннай вайны паслядоўна і падрабязна раскрываюцца ўсе больш-менш значныя бітвы—і віцябляне пастараліся так зрабіць. Ёсць у музеі Айчыннай вайны мемарыяльны зал—і яны захацелі мець... А ў выніку занялі вялікую экспазіцыйную плошчу за кошт адлюстравання іншых гістарычных перыядаў, недастаткова распрацавалі і насыцілі аб'ёмнымі экспанатамі перыяд пабудовы сацыялізма. Да гонару віцебскіх сяброў трэба сказаць, што яны і самі зразумелі некаторыя недахопы і робяць усё магчымае, каб удасканаліць экспазіцыі.

Бывае, што невялічкі штрых у экспазіцыі выяўляе памылковы погляд навуковага супрацоўніка.

Так, у Лепельскім музеі на пытанне — «Чаму ў экспазіцыі, якая адлюстроўвае першыя месяцы Айчыннай вайны, нічога не сказана аб зараджэнні партызанскага руху?»—дырэктар музея адказала, што партызанскі рух яны паказваюць пасля тэмы «Зверствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў» як адказ на гэтыя зверствы. Давялося растлумачыць дырэктару, што гэта не адказ на зверствы фашыстаў, а форма ўсенароднай барацьбы, якая была непазбежнай, незалежна ад таго, зверскія ці «гуманныя» метады прымянялі фашысты да мірнага насельніцтва.

Ёсць недарэчнасці і іншага парадку. Напрыклад Полацкі краязнаўчы музей дае навукова-дапаможны матэрыял у экспазіцыі (тэксты, анатацыі, карты-схемы) на рускай мове, хоць для музеяў Беларусі выпрацаваны ўзгодненыя ў Міністэрстве культуры БССР правілы: усе тэксты, карты, схемы, дыяграмы даваць на беларускай мове, анатацыі — на беларускай з перакладам на рускую.

Калі мясцовыя органы прымаюць рашэнне аб стварэнні новага музея, яны звяртаюцца ў Міністэрства культуры, каб гэта рашэнне было зафіксавана ў адпаведнай пастанове. Іншы раз няма ніводнага экспаната, няма будынка, а просяць адкрыць музей. Кваліфікаваныя супрацоўнікі Дзяржаўнага музея едуць на месца вывучаць умовы. Калі такія ўмовы ёсць, ствараецца новы музей. Больш месяца, напрыклад, працаваў работнік нашага музея ў г. п. Акцябр, дзе ствараўся музей народнай славы: сумесна з супрацоўнікамі Гомельскага абласнога музея выязджаў на месцы ў пошуках экспанатаў, хаця ў Акцябры павінны былі паклапаціцца пра гэта раней, сустракаўся з ветэранамі вайны і працы, пабываў на месцах баёў партызанскага атрада «Чырвоны Кастрычнік», на месцы разгрому атрадам штаба фашысцкай дывізіі і г. д.

Сёння ўсім вядомы музей баявой садружнасці савецкіх і польскіх войск у в. Леніна Магілёўскай вобласці. Больш месяца працавала тут па стварэнні экспазіцыі загадчыца метадычнага аддзела Дзяржаўнага музея. У выніку напружанай работы экспазіцыя была створана ў сціслыя тэрміны. Пасольства Польскай Народнай Рэспублікі ў Маскве ўручыла ёй памятны медаль.

Калі мы бачым, што на месцах да стварэння музея адносяцца, як да сур'ёзнай справы, мы дапамагаем не толькі музеям сістэмы Міністэрства культуры, але і грамадскім.

Прыемна было памагаць парадамі і практычна музею У. І. Леніна, створанаму ў Мачулішчах, музею баявой славы ў в. Іконы, з вялікай зацікаўленасцю прымалі мы ўдзел у стварэнні музея вялікага кампазітара, нашага земляка Ст. Манюшкі ў в. Убель. Вельмі добрыя кантакты і ўзаемадапамога ўстаноўлены з гісторыка-краязнаўчым народным музеем у в. Дукора, дзе працуе вялікі аматар музейнай справы В. М. Свістун.

З большасцю ж школьных музеяў адносіны аднабаковыя. У Дзяржаўны музей яны звяртаюцца толькі для таго, каб што-небудзь атрымаць. Прыходзіць ліст: «Дарагія сябры! Мы ствараем музей «Помнікі Леніну». Прышліце нам, калі ласка, фотаздымкі ўсіх помнікаў Леніну ў Беларусі, хто іх зрабіў і калі яны ўстаноўлены...»

А дзе ж пошукавая работа саміх школьнікаў, дзе вывучэнне гісторыі помнікаў, дзеля чаго і павінна ставіцца задача стварэння музея? Колькі цікавага, колькі трагічнага і гераічнага ў гісторыі помнікаў Леніну! Вось дзе прастор для выхаваўчай работы настаўніка. А замест гэтага—самае простае: прышліце фотаздымкі...

Менавіта так ствараюцца многія школьныя музеі. У статуце гэтых музеяў шмат самадзейнасці. Падчас у музеі пападаюць рэдкія матэрыялы, месца якім толькі ў дзяржаўных музеях, а ўлік і ахова экспанатаў не наладжаны, адказнасці таксама няма. У некаторых музеях захоўваецца нават зброя, што зусім супярэчыць правілам, якія прад'яўляюцца музеям органамі міліцыі. Аб'ектыўна такая дзейнасць наносіць шкоду дзяржаўным музеям. І няма чаго захапляцца тымі астранамічнымі лічбамі колькасці школьных музеяў, якія прыводзяцца падчас у друку або ў выступленнях прадстаўнікоў асветы. Праверка, якую зрабілі аднойчы работнікі Дзяржаўнага музея БССР, паказала, што лічбы выдуманыя, і толькі некаторыя музеі адпавядаюць сваёй назве. Гэта не значыць, што мы наогул адмаўляем саму ідэю школьных музеяў. Мы толькі патрабуем, каб да гэтай справы ставіліся сур'ёзна, як гэта робяць у музеі У. І. Леніна ў Магілёве, у Мар'іна-Горцы, Чэрвені, Жодзіна, у г. п. Круглае, у музеях, якія ўпаміналіся вышэй.

СТВАРЭННЕ экспазіцый — справа складаная, гэта вынік навукова-даследчай работы, вырашэння шэрагу праблем і пытанняў. Калі пра методыку пабудовы экспазіцыі, адпаведнасць яе агульнагістарычным працэсам клапоціцца і Дзяржаўны музей, то павышэнне змястоўнасці экспазіцый, насычанасці іх мясцовым матэрыялам ляжыць на сумленні саміх супрацоўнікаў таго або іншага музея, залежыць ад навуковай падрыхтоўкі супрацоўніка. Некаторыя лічаць так: калі чалавек з вышэйшай гістарычнай адукацыяй, значыць, гісторыю ведае, значыць, можа працаваць у музеі. У музейнай жа справе гэтага далёка недастаткова. Чалавек ведае факты агульнагістарычных працэсаў, законы дыялектычнага развіцця грамадства. А сутыкнуўшыся ж з музейнай справай, ён адчувае, што нельга не ведаць яшчэ і канкрэтныя факты гіс-

торыі раёна, гісторыю быта, прадметы матэрыяльнай культуры, этнаграфію, тапаніміку і да т. п. Неяк заехаў да нас адзін дырэктар раённага музея. Універсітэцкая адукацыя, атрыманая зусім нядаўна, не пакідала ніякага сумнення ў яго гістарычнай падрыхтоўцы. Таварыш прывёз для апазнання «кап'ё» і «крыцу». «Кап'ё» ж аказалася рагацінай, а «крыца»—спёкшымся шлакам. На пытанні, ці былі ў раёне рудні, ці ёсць паблізу вёска з назвай Рудня, супрацоўнік нічога адказаць не змог.

Я не хачу кідаць цень на работніка, які да нас прыязджаў. Проста прыводжу гэты факт як доказ, з якімі праблемамі, «далёкімі» ад агульнай гісторыі, даводзіцца сутыкацца музейнаму работніку. Вядома, часам мясцовым музейшчыкам не пад сілу ведаць усе прадметы матэрыяльнай і духоўнай культуры, і мы не адмаўляемся памагчы, калі да нас звяртаюцца. Мы не аднойчы вызначалі каштоўнасць калекцый нумізматыкі, старадрукаваных кніг, рукапісных дакументаў. Вельмі патрэбна вузкая спецыялізацыя, а гэта немагчыма пакуль што не толькі ў раённых музеях, а нават і ў Дзяржаўным музеі БССР.

Такія галіны дзейнасці музеяў, як фондавая, збіральніцкая, экспазіцыйная і нават навукова-даследчая, больш лёгка паддаюцца ўліку і кіраўніцтву з боку Дзяржаўнага музея БССР. А вось у прапагандысцка-масавай рабоце музеяў больш за ўсё прастору для творчасці і самастойнасці. З павышэннем навуковага зместу экспазіцый да форм масавай работы прад'яўляюцца ўсё больш высокія патрабаванні. Ужо нельга абысціся традыцыйнымі аглядньмі і тэматычнымі экскурсіямі-ўрокамі, лекцыямі. За апошнія гады ў дзейнасць музеяў укараніліся новыя формы: піянерскія лінейкі ў залах музеяў, камсамольскія сходы, уручэнне ў залах музеяў камсамольскіх білетаў ветэранамі партыі, тэматычныя вечары, прысвечаныя памятным гістарычным датам, сустрэчы наведвальнікаў музея з героямі рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, перадавікамі вытворчасці, дзеячамі навукі і культуры. Найбольш удалы вопыт гэтай работы мы абагульняем і распаўсюджваем.

Музеі ўжо, калі можна так сказаць, выйшлі з сваіх сцен у калгасныя і саўгасныя клубы з выстаўкамі, музеі пасылаюць туды лектараў, заслужаных людзей рэспублікі. Славіцца гэтым Пінскі і Брэсцкі краязнаўчыя музеі, Віцебскі і шмат якіх іншых. Але ў агульным патоку новых форм і прыдумак не абыходзіцца без перахлёстаў. Некаторыя музейныя работнікі хваляцца з трыбуны, што прымаюць нават удзел у... арганізацыі фестываляў песні! Прадстаўнікі мемарыяльнага музея М. П. Шмырова арганізоўвалі нават спартыўныя спаборніцтвы па плаванні на кубак М. П. Шмырова... Усё гэта чамусьці выдаецца за новае слова ў музейнай практыцы. На жаль, ацэнку такім формам работы не дала нават Усесаюзная нарада па навукова-асветнай рабоце, якая праходзіла ў Мінску ў 1969 годзе. Хочацца сказаць музейным супрацоўнікам: няхай пірагі пякуць піражнікі! Што ж будуць рабіць раённыя дамы культуры і раённыя камітэты фізкультуры? Калі ўжо надумаліся супрацоўнікі музея М. П. Шмырова мець дачыненне да кубка, заснаванага ў гонар легендарнага партызана, то для гэтага ёсць музейная форма: вазьміце гэты кубак, устанавіце ў экспазіцыі, раскажыце гісторыю кубка, аб спартыўнай барацьбе за яго, аб пераможцах гэтай барацьбы і г. д.

Ёсць традыцыйнае правіла: уся прапагандысцкая, навукова-асветніцкая і масавая работа музея грунтуецца на музейным матэрыяле, якім з'яўляюцца рэліквіі гісторыі народа, яго працоўнай і баявой славы. Гэтым музей адрозніваецца ад усіх іншых устаноў культурна-асветніцкага напрамку, гэтым дасягаецца найбольшае эмацыянальнае ўздзеянне на наведвальніка. І гэтым трэба кіравацца!

У музейных работнікаў рэспублікі ёсць шмат прэтэнзій да нашых вучоных. Недастаткова распрацавалі навукоўцы такія пытанні, як раннефеадальная дзяржава на тэрыторыі Беларусі, месца Полацкай зямлі ў агульнагістарычным развіцці феадальнай Русі, працэс фарміравання беларускай народнасці, Беларусь і Літва ў складзе Вялікага княства Літоўскага і рад іншых. У апошні час многія з гэтых пытанняў трактуюцца віднымі вучонымі краіны па-новаму, да канца адкідваюцца канцэпцыі дарэвалюцыйнай вялікадзяржаўнай гісторыяграфіі, якая адмаўляла своеасаблівасць развіцця беларускіх зямель, іх гісторыі і культуры.

У двухтомніку «Гісторыя БССР» (выданне АН БССР) шмат на якія пытанні адказу няма. І вось музейны работнік бярэ такую кнігу і па тэмах складае план, а потым да плану падбірае дакументы і рэчавыя экспанаты. Экспазіцыі будуюцца механічна, яны падобныя на тыя, што ёсць у іншых музеях, хоць у розных нашых раёнаў розныя гістарычныя лёсы.

Калі ўжо гутарка зайшла аб сэнсавым змесце музеяў, то нам хацелася б мець больш рознапрофільных музеяў. Беларускія ж музеі, як правіла, гісторыка-краязнаўчыя. Я паўтару не новую ісціну, калі скажу, што час ужо ў рэспубліцы мець музей этнаграфіі, музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у Мінску — музей гісторыі і рэканструкцыі сталіцы.

Зараз Міністэрства культуры БССР і Дзяржаўны музей Беларускай ССР працуюць над стварэннем арыгінальнага музея новага профілю, які будзе адкрыт у Заслаўі. Экспазіцыя музея прысвячаецца культуры старажытных народаў Беларусі, развіццю рамяства і народных промыслаў. Музей размесціцца ў Спаса-Прэабражэнскай царкве—архітэктурным помніку XVI ст. і з'явіцца састаўной часткай гісторыка-археалагічнага запаведніка.

СЁННЯШНІ музей... Не маўчанне стагоддзяў захоўвае ён. Наадварот, вядзе адкрытую размову пакаленняў, якая дапамагае па-сапраўднаму ацаніць штодзённыя здабыткі, перспектывы будучага. Уся разнастайная дзейнасць музеяў падпарадкавана задачам, якія паставіў перад народам XXIV з'езд КПСС. У дакладзе Л. І. Брэжнева гаворыцца: «Асяродкам усёй ідэйна-выхаваўчай работы партыі з'яўляецца фарміраванне ў самых шырокіх мас працоўных камуністычнага светапогляду, выхавання іх на ідэях марксізма-ленінізма». У гэтым трэба бачыць і сённяшні напрамак дзейнасці музеяў. І каб гэтая дзейнасць адпавядала патрабаванням партыі, патрэбна ўдасканальваць усе галіны работы музеяў: навуковую, збіральніцкую, фондавую, экспазіцыйную, прапагандысцка-масавую. Дзяржаўны музей БССР як метадычны цэнтр музейнай работы рэспублікі і ставіць перад сабою такую задачу.



Гомель. Завод «Цэнтраліт».

Фота К. ЯКУБОВІЧА.




# ПЕРШЫ КАНТРАБАС

Бывае часам, гледзіш у ноты новага твора, а там такія неверагодныя пасажы, што здаецца, ніколі табе не сыграць іх. І ў галаву прыходзіць думка, што кампазітар не ведае спецыфікі і магчымасцей інструмента, для якога напісаў усё гэта. Са злосцю мармычаш сабе пад нос: «Хай бы ён сам паспрабаваў сыграць гэта». Але раптам чуеш, як твой зусім яшчэ малады сусед, што працуе ў аркестры «без году тыдзень», свабодна іграе гэты складаны пасаж. І ты разумееш, што не меў рацыі, абвінавачваючы кампазітара. Яшчэ некалькі намаганняў — ты падбіраеш патрэбную аплікатуру, і пасаж атрымліваецца.

Менавіта такі выпадак здарыўся пры маім першым знаёмстве з Валодзем Глугоўскім. З таго часу я пачаў уважліва прыглядацца і прыслухоўвацца да маладога аркестранта. Здавалася, для Валодзі не існавала складаных партый. Усё ў яго атрымлівалася быццам адразу, інтанацыйна чыста і дакладна.

Прыехаў ён да нас з Чарнавіц, дзе скончыў музычнае вучылішча, паступаць у кансерваторыю. Здольнасці Валодзі з першых жа дзён прыцягнулі ўвагу педагогаў. Яшчэ на прыёмных іспытах ён сыграў «Калыханку» М. Чуркіна і «Палёт чмяля» М. Рымскага-Корсакава. Потым былі Канцэрт для кантрабаса С. Кусявіцкага, «Украінская рапсодыя» М. Лысенкі і іншыя складаныя творы. Сярод іх было мноства скрыпічных эцюдаў у пераладжэнні для кантрабаса. Калі ўлічыць памеры грыфа кантрабаса ў параўнанні са скрыпічным (адзін тон на кантрабасе раўняецца па сваіх памерах добрай актаве на скрыпцы), то толькі дзіву можна было давацца, як гэта лёгка і віртуозна атрымлівалася ў маладога музыкі. Прафесар Маскоўскай кансерваторыі Д. Цыганоў, які праслухаў студэнта Глугоўскага, ахарактарызаваў яго як выдатнага музыканта.

Гэтую характарыстыку Валодзя з бляскам пацвердзіў, калі пасля заканчэння Беларускай кансерваторыі стаў канцэртмайстрам групы кантрабасаў у сімфанічным аркестры Кішынёўскай філармоніі. Аднак тут ён прабыў нядоўга — цягнула ў Мінск, да беларускай музыкі, якую палюбіў усёй душой.

І вось У. Глугоўскі працуе канцэртмайстрам групы кантрабасаў у Дзяржаўным сімфанічным аркестры Беларускай ССР. Як заўсёды бывае, музыканты спачатку пільна прыглядаліся і прыслухоўваліся да новага канцэртмайстра. Аднойчы на пульты аркестра паклалі ноты «Шатландскай сімфоніі» Мендэльсона, у якой надзвычай складаная партыя кантрабасаў. Дырыжор пачаў праслухоўваць музыкантаў па адным, і калі чарга дайшла да канцэртмайстра, ён выканаў сваю партыю так дасканала, што скупыя на пахвалу аркестранты паладзілі яму сапраўдную авацыю.

За гады працы У. Глугоўскага ў аркестры значна ўзрасло выканаўчае майстэрства групы кантрабасаў, выраўняўся гук. Канцэртмайстар лічыць, што на кантрабасе можна іграць таксама віртуозна, як і на скрыпцы. І патрабуе ад аркестрантаў пастаяннай працы.

...На сцэне — аркестр і вялікі хор. Выконваецца Дзевятая сімфонія Бетховена. Пачынаецца бетховенскі гімн свабодзе, гімн роўнасці і братэрству, гімн чалавечаму шчасцю.

Хто з музыкантаў не адчувае хвалявання пры надыходзе гэтага месца ў бетховенскай музыцы? Трэба сказаць, што яно надзвычай складанае, і іграць яго трэба з абсалютнай чысцінёй, бо ва унісоне кожная няправільна ўзятая нота будзе асабліва рэзаць слых. І група кантрабасаў на чале са сваім канцэртмайстрам спраўляецца з гэтай задачай выдатна.

Але не толькі ў тэхнічных складанасцях заключаюцца цяжкасці аркестравай ігры: для кожнага твора патрэбна свая манера выканання. Трэба не толькі ў дасканаласці валодаць грыфам інструмента, мець тонкі слых (а менавіта кантрабасісту ён патрэбен болей, чым другім музыкантам, дзякуючы надзвычай нізкаму гучанню інструмента, якое не ўсякае вуха ўспрымае), але і ведаць стылявыя асаблівасці музыкі таго ці іншага кампазітара, умець увасобіць яго задуму. Менавіта таму У. Глугоўскі імкнецца выконваць самыя разнастайныя творы.

Сціплы, мэтанакіраваны, віртуозны выканаўца, ён па праву лічыцца першым кантрабасам рэспублікі.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР.**



# ЧЫРВОНАЯ ШЫПШЫНА САЛАСПІЛСА



ЭЛЕКТРЫЧКА ідзе да станцыі Айзіраўле. Едзем не да канца — нам выходзіць на восьмым прыпынку. Вагон поўны. Людзі з чамаданамі, вудамі, валейбольнымі мячамі і рознай іншай паклажай едуць хто куды. Маладыя, пажылыя. Многія чытаюць.

А ў руках жанчыны ў чорнай парчовай сукенцы — тры чорныя гладыёлусы. Яна глядзіць у акно. Твар сухі, аскетычны, у поглядзе затоены боль... Дарзіні. Выходзім. Сцежка вядзе ўздоўж чыгуначнага палатна. Ля ўказальніка «Да помніка Саласпілс» збочваем у лес.

Цішыня. Нерухомыя, медныя пад сонцам сосны. Дарога выходзіць на невялікую паляну. Злева і справа — футбольныя вароты. Напэўна, паблізу піянерскі лагер. Цішыня... Мы ідзем гэтай звычайнай і незвычайнай лясной дарогай, дзе проста пасярэдзіне пні са смарагдавымі пушыстымі галінкамі, што выбіваюцца з-пад кары. Паварот. Адчуваем— ужо блізка...

І вось, скрозь зеляніну шэра і мёртва свеціць бетон. Пліта. Чорныя кулявыя адтуліны, сколы... Тут ішлі дарогай смерці непакорлівыя. Колькі нявыказаных слоў, колькі непражытых гадоў абарвана куляй.

Саласпілс... Сто тысяч смерцяў. 47 400 ваеннапалонных, 53 700 мірных жыхароў, 7 000 дзяцей... Дзяцей!..

...Ідзем унутры велізарнай стометровай сцяны. На ёй надпіс: «За гэтымі варотамі стогне зямля». Тут былі вароты Саласпілса. Тут — мяжа жыцця і смерці. Узнімаемся ўнутры сцяны па лесвічных маршах на 12 метраў уверх. Амбразуры... Вокны ў мінулае — жахлівае, трагічнае. Наша з вамі мінулае.

Памяць!

Людзі! Глядзіце — перад вамі Саласпілс...

100 тысяч жыццяў...

47 400...

53 700...

7 000...

Чорная мармуровая пліта. Адтуліна — як урна. Жывыя кветкі на чорным мармуры. І — рытмічны — з-пад зямлі, з нежыцця, чорнага небыцця — вечны стук метранома, стук ста тысяч сэрцаў, сто тысяч светаў...

І сцяна соснаў — іх тады пасадзілі вязні. І фігуры: дзяўчыны — «Прыніжаная», жанчыны, якая засланіла трох дзяцей — «Маці». І трохі лявей — белыя прамавугольнікі на зялёным полі. Мы яшчэ не ведаем, што гэта. Мы глядзім з амбразур сцяны на 30 гектараў палігона. Справа — неба, пакрытае хмарай. І фігуры «Салідарнасць», «Клятва», «Рот Фронт». І бліжэй за ўсіх — «Нязломны»...

Цішыня. Зубчасты край лесу. Удары метранома. Сонца і чорная навальнічная хмара. І на гэтым фоне — фігуры Саласпілса.

Спускаемся ў мемарыяльны музей, што ў правай палавіне сцяны. Лаканічная і жахлівая яго экспазіцыя.

...Латышы і эстонцы, рускія і беларусы, яўрэі і палякі, аўстрыйцы і чэхі, бельгійцы і немцы... Так, памяць пра іх, як факел, будзе палаць у сэрцы народным!

...Чорны засценак, дзверы з замкам... Рэйхсміністр усходніх акупаваных абласцей Розенберг, яго намеснік Меер, рэйхскамісар Украіны Кох і рэйхскамісар Остланда Лозе. Гэта фатаграфія з газеты рэйхсфюрэра СС ад 2 жніўня 1942 года. Здымак зроблены ў момант абмеркавання задачы: «вызваліць» Остланд для чыстакроўных немцаў.

Белыя, чырвоныя нашыўкі... Паўкруг, круг, трохвугольнік... Іх нашывалі на грудзі і на спіну —мішэнь...

Біркі. Драўляныя, алюмініевыя. Па-нямецку: «Сяргеева Ніна, 12 гадоў», «Сайкова Ніна», «Дзіця без бацькоў: нарадж. 1936 г.».

Гэта толькі трое з сямі тысяч дзяцей, якія былі закатаваны тут. Іх адсялялі ў асобныя баракі, выцягвалі з іх кроў для фашысцкіх шпіталяў, праводзілі над імі медыцынскія эксперыменты...

Яшчэ адно фота. Горы трупаў. Горы!

Мы ўжо ля выхаду і...

...Так пранізліва чыста і гучна спяваюць ў Саласпілсе птушкі!

Ідзем дарогай пакут і смерці. Яна зараз абкладзена бетоннымі плітамі. У яе форма пятлі. І канчаецца яна ля шыбеніцы.

Тут людзей каралі смерцю за тое, што яны былі невінаватыя...

Тут людзей каралі смерцю за тое, што кожны з іх быў чалавекам і любіў Радзіму...

Мы ідзем дарогай, якой пайшлі з жыцця сто тысяч чалавек; тут, дзе мы ідзем, на дрэвах не было кары — яе з'елі людзі...

Але самае жахлівае ў Саласпілсе мы яшчэ не бачылі...

Белыя бетонныя прамавугольнікі— гэта падмуркі былых баракаў. Унутры — зараснікі шыпшыны. Шыпшына, яе вострыя іголкі... Цярністы шлях... Мы праходзім міма фігур. Паблізу яны робяць яшчэ большае ўражанне: яны гавораць з вамі на мове пакут і мужнасці, гора і волі, нянавісці і любві...

І вось мы ўжо на шляху да сажалкі, якую выкапалі вязні. Нізкія пліты каля прамавугольнікаў. У іх сляпыя вокны, краты.

Шыпшына... Якія чырвоныя, якія вялікія плады...

Што гэта? За кратамі, кінжальнымі, вострымі, якія рвуць намаляванае на часткі, у сляпым акне «сцяны» барака — дзіцячыя малюнкі!

Дом з комінам і дымам... Дарога... Сонца на тоненькіх ножках-промнях. Чалавечак — смешны дзіцячы чалавечак з квадратным тулавам і гузікамі-кропкамі... За кінжаламі кратаў!.. Тут былі дзіцячыя баракі лагера смерці Саласпілса. Тут расце самая буйная і самая чырвоная на ўсёй зямлі шыпшына.

А гэта мы ўбачылі, калі ішлі назад.

Ля самай фігуры «Прыніжанай» на зямлі ляжалі тры чорныя гладыёлусы...

На чорным мармуры будынка, на які абапіраецца стометровая сцяна, выбіты клінапісам зарубкі і лічбы. Кожная зарубка — гэта дзень існавання Саласпілса. Кожная лічба — гэта год: 1941... 1942... 1943...

І вось тут, каля гэтага жахлівага календара, стаяла маці з дзіцем на руках. Дзіця смяялася. А за спіной маці — шэрыя зарубкі і лічбы: 1941... 1942... 1943... Саласпілс...

Маці ўсміхаецца і нешта гаворыць малышу. Побач — блакітная, дзіцячая каляска.

Я фатаграфую іх—жанчына сарамліва і вінавата гаворыць:

— Ён не разумее, што тут нельга шумець.

З-пад зямлі рытмічна, ста тысяччу сэрцаў б'е метраном. У Саласпілсе смяецца дзіця...

...Зноў дарога і медныя ад сонца дрэвы...

●

У мяне на стале ляжыць надзвычай буйны плод шыпшыны. Я прывёз яго дачцы. Ёй тры гады. Калі яна вырасце, мы разам паедзем у Рыгу на «Чайцы», потым перасядзем на электрычку, потым пройдзем яшчэ кіламетр — паўтара лясной дарогай — і я пакажу ёй, дзе расце такая буйная, такая чырвоная шыпшына... І мы моўчкі пастаім з ёй ля сцяны, дзе за кінжальнымі кратамі свеціць дзіцячае смешнае сонца...

**Н. ЦЫПІС.**

Мінск — Саласпілс.

— ПРАЗ ДЗВЕ гадзіны будзем у Марыенборне. Калі там няма вялікага наплыву, праверка зойме ўсяго паўгадзіны, і накоцім далей,— Вілі і не чакае, што яго спадарожнік што-небудзь адкажа на яго словы.

Кожную раніцу прыязджае Вілі па свайго шэфа і кожную раніцу, пакуль яны дваццаць мінут едуць ад кватэры дырэктара да завода, адбываецца адно і тое ж. Гэта стала амаль рытуалам: «Добрай раніцы!», пяць мінут на прагляд газеты, расказ аб тым, што ўчора перадалі па тэлевізары, некалькі крытычных заўваг...

Вілі і дырэктар завода Бернд Эверт добра вывучылі адзін аднаго. Вілі памятае той час, калі Эверт ўпершыню паявіўся на заводзе. Тады ўсе звалі яго «новы», а многія ставіліся да яго з недаверам — ужо вельмі малады быў ён, гэты новы дырэктар! Усяго трыццаць тры гады. Пасля інстытута два гады працаваў памочнікам дырэктара на нейкім берлінскім заводзе, а цяпер яго прызначылі сюды. «Малады яшчэ, каб кіраваць нашым заводам, — бурчалі старыя рабочыя. — А вопыт? Дзе ён паспеў яго набрацца...»

— Гэта праўда, што ён малады, — пагаджаўся тады Вілі, — але пачакаем... паглядзім...

Гэта «пачакаем, паглядзім» Бернд Эверт адчуваў усюды. Праз некалькі месяцаў яго сталі называць «наш новы», а праз год ужо з павагай: «Наш дырэктар».

За гэтыя гады Вілі давялося зрабіць нямала паездак з дырэктарам. Разам з ім ён скалясіў уздоўж і ўпоперак усю рэспубліку — Берлін, Лейпцыг, Расток, Дрэздэн, Цвікаў, Штральзунд. Але такую паездку ім даводзіцца рабіць упершыню — сёння яны едуць у Дзюсельдорф.

А Бернд Эверт думае аб сваім. У Дзюсельдорфе яму даручана падрыхтаваць праект дагавора з буйным заходнегерманскім канцэрнам. Дзелавы бок пытання яго не палохае. Асартымент тавараў, іх якасць, тэрміны пастаўкі — усё гэта ён вывучыў напамяць. Але ёсць пытанне, якое вось ужо некалькі начэй не дае яму спакою — хто будзе сядзець насупраць яго там, за сталом перагавораў? Гэтая думка не пакідае яго нават цяпер, калі іх машына мчыцца па аўтастрадзе.

Хто будзе ён, гэты прадстаўнік канцэрна? Напэўна, чалавек, які многае пабачыў на сваім вяку: Мадрыд, Парыж, Буэнас-Айрэс, Нью-Йорк... А што гэтаму магу супрацьставіць я? Расток, Цвікау, Берлін, Варнемюндэ...

— Паслухай, дырэктар, па-мойму, ты дарэмна ламаеш галаву! — перабіве яго роздум Вілі.

Бернд Эверт суне ў рот дзве цыгарэты, прыкурвае і адну з іх падае Вілі. Але нават зараз, калі машына імчыцца з хуткасцю 110 кіламетраў, яго думкі ўвесь час круцяцца вакол гэтага чалавека ў Дзюсельдорфе: «Напэўна, у яго будуць сівыя скроні, шыкоўны касцюм, гальштук будзе гарманіраваць з чаравікамі, зажым гальштука — з пярсцёнкам на пальцы...»

— Цьфу чорт, я, здаецца, зусім заблытаўся! — уголас гаворыць дырэктар і да шафёра: — Вілі, раскажы лепш што-небудзь, ну, якую-небудзь гісторыю, анекдот...

— Цяжка, дырэктар,—круціць галавой Вілі.— Мы даўно ўжо ведаем адзін аднаго. Усё цікавае я табе ўжо расказаў, а некаторыя гісторыі ты, відаць, ужо разы тры чуў.

Машына праносіцца міма жоўтага шчыта, «Марыенборн, 80 км». Вілі апускае акно і выкідвае акурак.

— У мінулую нядзелю, — пачынае ён, — селі мы вечарам гуляць у карты, а Пітэр, гэта мой ўнук, ледзь было нам усё не сапсаваў. Толькі мы згулялі дзве партыі, як з'яўляецца гэты свавольнік і пытаецца такім тонам, быццам гутарка ідзе пра тое, якую гадзіну паказвае гадзіннік: «Скажыце мне дакладна, калі вы адчулі, што пасля 1945 года для вас наступіў новы час?»

Ну і пытанне, скажу я вам! А мой зяць толькі што здаў карты і ў мяне на руках самая лепшая масць. Ну, ладна, спрабуем мы, кожны па-свойму, адказаць на пытанне. А Петэр выслухаў нас і заяўляе: «Нядрэнна, ды толькі аб гэтым я ўжо чытаў у газетах, а нам настаўнік сказаў, каб мы прывялі, які-небудзь свой прыклад. Аб тым, што вы расказваеце, пісаць не варта».

Уначы я доўга не мог заснуць — у галаве ўвесь час стаяла пытанне, якое нам задаў Петэр. І вось, што я ўспомніў. Працаваў я будаўніком. У 1932 пабудавалі мы новы гарадскі тэатр. Закончылі работу і нам дазволілі напіцца да чорцікаў. У той вечар, калі было адкрыццё новага тэатра, мы з жонкай стаялі на другім баку вуліцы і толькі глядзелі, як да пад'езда пад'язджаюць машыны, а з іх выходзяць расфранчоныя дамы і паны. Ну, а мы пастаялі, ды і пайшлі дамоў...

У 1948 годзе мы зноў аднаўлялі гэты тэатр, у час вайны яго разбамбілі. Потым адбылося ўрачыстае адкрыццё і мы з жонкай сядзелі ў партэры, як ганаровыя госці.

Вось тады, думаю, я і адчуў па-сапраўднаму, што для нас настаў новы час!

Раніцай я расказаў гэтую гісторыю Петэру. «Вось добра! — узрадаваўся ён. — Сачыненне мы павінны здаваць заўтра, а я яго сёння перапішу нанава! А твая гісторыя, дзядуля, проста о'кей, такога я яшчэ нідзе не чытаў!» Вось пракляты свавольнік!

«Калі б я не ведаў, што Вілі не вучыўся, я б прыняў яго за спецыяліста па псіхалогіі!» — думае сам сабе Эверт. Ён спрабуе ўявіць яго ўнука. Потым думкі зноў вяртаюцца да чалавека ў Дзюсельдорфе, але ён рашуча трасе галавой: «Чорт вазьмі! Можа ён быў і ў Парыжы, і ў Лондане і яшчэ сям-там, можа быць у яго сапраўды сівыя скроні і цудоўны касцюм! Але я то ведаю, чаго мне трэба дабіцца! І справа, аб якой мы будзем гаварыць, мне вядома не горш, чым яму!»

. . . . . . . . . . . . . . . .

Дзюсельдорф.

Яны ўжо прынялі ванну. Нумары ў іх добрыя. За акном стаіць ранні вечар. Заўтра, у 10 гадзін, павінны пачацца перагаворы.

Служачы канцэрна, што сустрэў іх, — сама ветлівасць. Можа пан дырэктар мае якія жаданні? Вельмі шкада, што неафіцыйная сустрэча

# ПАЕЗДКА Ў ДЗЮСЕЛЬДОРФ

ЗАРУБЕЖНАЯ НАВЕЛА

Рудзі БЕНЦЫН



Мал. А. САПЕТІ.

пана дырэктара Эверта з упаўнаважаным канцэрна не можа адбыцца вечарам. Пан упаўнаважаны затрымаўся ў дарозе з Нью-Йорка ў Парыж і толькі позна ўвечары прылятае на аэрадром у Кёльне...

Не, пан дырэктар не мае асобых жаданняў. Ветлівы служачы спяшаецца развітацца.

— Ну, Вілі, што мы будзем рабіць?

— Пройдземся пешкам па горадзе, шэф. Мне тут сёе-тое знаёма — у 1934 годзе я будаваў тут казармы.

Залітая святлом Кёнігсалея, перакінутыя праз вуліцу гірлянды лямпачак, зіхоткія вітрыны ювелірных магазінаў, натоўпы зявак на тратуары, бясконцы паток аўтамабіляў. У маленькім рэстаране яны распіваюць бутэльку віна, якую ім падала чорнавалосая італьянка. У дзесяць гадзін вяртаюцца ў атэль.

У сваім нумары Эверт яшчэ раз праглядае праект дагавора, робіць сабе нейкія паметкі на заўтра і кладзецца ў пасцель. Пан упаўнаважаны канцэрна затрымліваецца дзесьці паміж Нью-Йоркам і Парыжам. У яго сівыя скроні, дарагі пярсцёнак на пальцы...

. . . . . . . . . . . . . . .

Хутка дзесяць гадзін. Эверт адчувае, што ў яго злёгку смокча пад лыжачкай. Сядзець у кабіне «Мерсэдэса», бадай, не горш, чым у «Татры». Карэктны, ветлівы шафёр апрануты ў шэрую уніформу канцэрна. Ён маўчыць за рулём і элегантна вядзе машыну скрозь мітусню вуліц.

І вось вялікі,ззяючы шклом будынак. Шафёр адчыняе дзверцы.

— Рад вас вітаць ад імя праўлення нашай фірмы, пан дырэктар,—гаворыць яму хтосьці ў чорным касцюме з матыльком.—Вас ужо чакаюць.

У суправаджэнні чорнага касцюма Эверт падымаецца па лесвіцы і адчувае, што з кожнай прыступкай расце яго ўпэўненасць у сваіх сілах. А калі ліфт імчыць іх на восьмы паверх, раптам да яго прыходзіць новае, нечаканае пачуццё—вострая цікаўнасць.

Пакой 813. У ім усяго два чалавекі. Бернд Эверт ледзь верыць сваім вачам, яму так і хочацца заплюшчыць іх, а потым добра працерці зноў. Чорны касцюм гаворыць:

— Дазвольце прадставіць,—пан доктар Дэген, упаўнаважаны нашай фірмы; пан Краузе — ён будзе весці пратакол.

Насустрач Эверту працягваецца рука з дарагім пярсцёнкам... Але гэта не чалавек з сівымі скронямі, а Марцін Дэген! Той самы Дэген, з якім ён вывучаў эканомію ў Берліне, з якім ён чатыры гады жыў у адным пакоі!!

Доктар Дэген робіць запрашальны жэст:

— Ну што ж, сядзем!

Цэлую гадзіну сядзяць яны адзін супраць аднаго. Удакладняюць умовы паставак, узгадняюць тэрміны, гавораць пра якасць тавараў. Гутарка ідзе вельмі карэктна, але ў думках...

Эверт успамінае пра заклад, на які яны пабіліся калісьці з Дэгенам. Аднойчы яны вярталіся са сваімі сяброўкамі са студэнцкага вечара і тады ў вагоне метро адбылося гэта.

— Я б'юся аб заклад,—заявіў Марцін Дэген. —Няхай у мяне сёння ў кішэні ўсяго 20 пфенінгаў, але я б'юся аб заклад, што калі мне споўніцца 30, я буду купацца ў золаце і буду па крайняй меры дырэктарам завода.

Эверт прыняў заклад. Тады Марцін выцягнуў з кішэні свае 20 пфенінгаў і напышлівым жэстам выкінуў іх у акно вагона. Праз хвіліну ён пазычыў у Веры дваццаць марак.

Не, Бернд Эверт нічога не мае супраць доктара Дэгена, што сядзіць зараз супраць яго, але Марцін Дэген, які тады, так выхваляючыся, прапанаваў гэты заклад, зараз яму проста агідны.

Перагаворы закончаны, усё абгаворана, і Бернд Эверт падымаецца з месца.

— Пан генеральны дырэктар наладжвае сёння ўвечары ў ваш гонар невялікі банкет. У восем гадзін ён пршле па вас машыну,—гаворыць у заключэнне доктар Дэген.—А цяпер, калі жадаеш, я магу падвезці цябе да атэля.

Краузе, што вядзе пратакол, спалохана ўзнімае галаву,—пан доктар звяртаецца да чырвонага дырэктара на «ты»!

— Не, дзякую!—адказвае Эверт і выходзіць з пакоя. Не даязджаючы да атэля, ён спыняе машыну і рэштку шляху праходзіць пешкам. У яго галаве мрояцца думкі. Вядома, гэты Марцін Дэген будзе на вечары! Эх, з якой бы ахвотай ён ухіліўся ад гэтай сустрэчы!

«Між намі няма нічога такога, аб чым мы маглі б гаварыць, не кранаючыся таго закладу!» — думае Эверт. У яго няма ніякага жадання гаварыць з Марцінам Дэгенам: ні аб тым, што іх звязвала ў мінулым, ні аб тым, як яны жывуць зараз. Прыйшоўшы ў атэль, ён расказвае гэтую гісторыю Вілі.

— Лепш за ўсё я сказаў бы табе: «Заводзь машыну і паехалі дамоў!»

— Так не трэба, шэф,—круціць галавой Вілі.—Зараз ты тут прадстаўнік нашага трэста, а на вечары—госць нашых гандлёвых партнёраў.

— Ды ведаю я ўсё!—з прыкрасцю гаворыць Эверт.

«Калі Дэген будзе на вечары, дык трэба вырашыць, як з ім трымацца,—думае ён.—Проста яго адштурхнуць нельга—справа ідзе аб большым, чым асабістая сімпатыя або асабістая непрыязнь... Што будзе, калі я скажу яму пры ўсіх тое, чаго ён варты? Я сапсую ўсім настрой, а гэта толькі ўскладніць нашы дзелавыя адносіны... Не, трэба быць спакойным... Так, так... Калі ўжо гэтага нельга будзе пазбегнуць, пастараюся гаварыць з ім звычайным тонам, але няхай ён адчувае, што ў асабістым плане між намі няма нічога агульнага. Толькі б мяне не падвёў мой характар!»

Прыняўшы гэтае рашэнне, Бернд Эверт адразу адчувае сябе лепш, больш упэўнена. Але як бы было ўсё прасцей, калі б ён вёў перагаворы з тым чалавекам, у якога сівыя скроні, які пабачыў Парыж, Мадрыд і Лондан.

. . . . . . . . . . . . . . .

У холе вілы Эверта сустракае генеральны дырэктар канцэрна Кляйншміт:

— Добры вечар, пан дырэктар! Рад вітаць вас у маім доме. Заходзьце, прашу вас!

У зале дамы і мужчыны. Строгая элегантнасць туалетаў, свецкая ветлівасць твараў над глыбокімі дэкальтэ і старанна завязанымі гальштукамі. Эверта знаёмяць з прысутнымі: «Дазвольце вам прадставіць...», «Вельмі прыемна!», «Дазвольце...», «Вельмі прыемна!» А вось і знаёмы твар над шэра-стальным матыльком.

— Доктар Дэген, мой зяць. Вы, здаецца, ведалі адзін аднаго раней... Ну, цяпер у вас абодвух дастаткова прычын успомніць мінулае,—гаворыць пан Кляйншміт:

Паступова прысутныя трацяць сваю ганарыстасць. З Эвертам гавораць пра самае markзнае.

— Дык, значыць, вы прыехалі са старога Хемніца? Божа мой! Да 1934 года я служыў там асэсарам. У апошнія гады я часта бываў там у вас, але ў Хемніцы неяк не давялося...

— Я быў два тыдні назад у Берліне. Бачыў там змену ганаровай варты каля помніка. Па праўдзе кажучы, мяне здзівіла, што там, у вас, можна ўбачыць такое, але, ведаеце, мне спадабалася...

— Заўтра ўвечары абавязкова схадзіце ў «Маленькую камедыю», такую праграму вы там, у сябе, наўрад ці ўбачыце.

І раптам:

— Пойдзем, пан дырэктар Эверт, пасядзім у куточку, — гаворыць яму Марцін Дэген, паказваючы ў куток, дзе стаяць зручныя крэслы. Гэта «пан дырэктар» Дэген гаворыць такім інтымна-сяброўскім тонам, што Эверт ледзь стрымліваецца.

Пан Кляйншміт па-сяброўску ківае ім галавой, калі яны садзяцца ў крэслы. Марцін Дэген дастае свой кашалёк, выцягвае двума пальцамі дзве манеты па дзесяць пфенінгаў і абыякава кладзе іх на край стала.

— Спадзяюся, ты памятаеш пра наш заклад?

— Вядома, і тыя дваццаць марак, што ты пазычыў у Веры.

— Ах, так! Правільна! Аб гэтым я зусім забыў! Ну, усё роўна. Дык хто ж выйграў заклад?

Падыходзіць з падносам слуга: «Моіз олд», «Шатландскае віскі», «Блэк энд уайт». Яны бяруць сабе па шклянцы, але Эверт, не прыгубіўшы, ставіць свой на стол. Дэген робіць тое ж.

— Дык хто ж з нас выйграў заклад? Ты ці я?

Ох, як ахвотна выказаў бы зараз яму Эверт усё, што ён пра яго думае! Але, як гэта ні смешна, яму ўспамінаецца ўнук Вілі. «Усё гэта я ўжо чытаў у газетах!» — сказаў бы свавольнік. «І ён меў бы рацыю, — думае Эверт. — Калі я зараз пачну гэту размову, дык ужо не змагу быць спакойным. Не, мяне прыслалі сюды не для таго, каб я выказваў нейкаму Дэгену, што я пра яго думаю!» І ён маўчыць, робячы выгляд, што з цікавасцю назірае за прысутнымі ў зале.

Марцін Дэген загадвае паставіць на стол бутэльку каньяку, хоць тут яшчэ стаяць нявыпітыя шклянкі з віскі.

— Раней ты быў больш гаваркі! — заўважае ён. — Ну, нашаму закладу, канечне, не варта надаваць вялікага значэння. Ты там таксама займаеш добрую пасаду — як-ніяк дырэктар завода. Ну, а я тут накуль накшталт хлопчыка-пасыльнога — вяду перагаворы з усімі краінамі, але мой сваяк абяцае мне добрую перспектыву. Значыць, мы роўныя і нам абодвум па трыццаць пяць. Вып'ем за гэта!

Марцін Дэген падымае шклянку, але Бернд Эверт да сваёй нават не дакранаецца:

— Не, мы не роўныя, — спакойна гаворыць Эверт. — Між намі ёсць розніца і значная!

Дэген зноў ставіць шклянку на стол. Яго твар пачырванеў, але ён робіць выгляд, што не чуў таго, што сказаў Эверт, і сутаргава-вясёлым тонам працягвае:

— Ведаеш, я часта ўспамінаю наш пакой... Думаю аб тым, што зараз робіць той, чым займаецца тая... Ты памятаеш тое свята...

На стале стаяць дзве некранутыя шклянкі віскі, Эверт глядзіць на Дэгена, быццам перад ім нейкае рэдкае выкапнёвае, а той, пазбягаючы яго позірку, усё гаворыць:

— Не думай, што мне тут лёгка... Але чаму ты маўчыш? Або я не варты таго, каб ты са мной гаварыў?! Калі я ўцёк адтуль, дык я, па-твойму, ужо і дрэнь?..

Яго твар валіваецца крывёю, голас становіцца гучнейшым. Некаторыя госці пачынаюць прыслухоўвацца да іх размовы. Дэген заўважае гэта і бярэ сябе ў рукі.

— Усё, аб чым мы маглі з табой гаварыць, сказана сёння раніцай, — адказвае яму напаўголасу Эверт, сам здзіўляючыся свайму спакою.

— Ты лічыш, што лепшы за мяне? Думаеш, што гэта ты выйграў заклад? — ціха, амаль шэптам, каб не прыцягваць увагі гасцей, пытаецца Дэген.

Эверт адчувае, што Дэген вось-вось страціць уладу над сабой. Ён устае і адыходзіць да групы гасцей, але Дэген падскоквае і крычыць так, што ўсе абарочваюцца ў іх бок.

— Стой! Я сам скажу, што ты пра мяне думаеш! Я ведаю! Ты думаеш: «Здраднік! Мы зрабілі з цябе чалавека, а ты ўцёк, перабег на бок класавага ворага...»

Яго голас зрываецца. Па знаку гаспадара двое лакеяў падбягаюць і выводзяць яго з залы. Ён амаль не супраціўляецца. Разам з ім знікае і пан Кляйншміт. У зале збянтэжана маўчаць. Праз некалькі хвілін пан Кляйншміт вяртаецца зноў.

— Мой зяць, доктар Дэген, просіць дараваць яму, — гаворыць ён, нацягнута ўсміхаючыся. — Доктар Дэген дрэнна сябе адчувае... Лішняя чарачка...

На мармуровым стале стаяць дзве поўныя, некранутыя шклянкі віскі.

Пазней, развітваючыся з Эвертам, пан Кляйншміт гаворыць яму:

— Прабачце за гэтую недарэчную выхадку. Прашу вас — забудзьце пра яе...

. . . . . . . . . . . . . . .

На досвітку, калі рассейваецца ранішні туман, Эверт і Вілі пад'язджаюць да Марыенборна. Дваццаць мінут чакання, і вось іх «Татра» імчыцца па знаёмай аўтастрадзе з хуткасцю 110 кіламетраў у гадзіну.

— Ну, здаецца, цяпер ёсць на свеце яшчэ некалькі пытанняў, якіх я ўжо не буду баяцца, — гаворыць Бернд Эверт вадзіцелю.

Вілі падміргвае яму і пачынае весела насвістваць.

Пераклад з нямецкай мовы С. КУВАЕВА.

